РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ

# Культура

Кошт 200 рублёў

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №26 (135), 29 ЧЭРВЕНЯ 1994

СЁННЯ:



УСЦЕШЫМСЯ ВІДОВІШЧАМІ?..
Стар. 2

## 3 ЛІПЕНЯ -- 50-ГОДДЗЕ ВЫЗВАЛЕННЯ БЕЛАРУСІ АД НЯМЕЦКА-ФАШЫСЦКІХ ЗАХОПНІКАЎ

*Белыя крылы буслоў над нашым краем -- Божы знак: паўстала з попелу апошняй вайны беларуская зямля.*
*Мы помнім вас, салдаты Вялікай Айчыннай, і тых, хто склаў галовы, і тых, хто сёння сярод нас...*

Валянцін ТАРАС
НАД СТАРЫМ ЗДЫМКАМ

"... тое, што германскі фашызм быў разгромлены пад чырвоным сцягам, не мяняе і не скажае сутнасці самой Перамогі. Бо яна паслужыла падмуркам будучыні, у тым ліку і будучыні нашай Бацькаўшчыны як незалежнай дзяржавы."

Стар. 5

МАЙСТЭР-КЛАС... МАСТЫК ХІН

Стар. 12,13

ЭКСКЛЮЗІЎ

# ЧАМУ ЛАТ МАЦНЕЙШЫ ЗА ДОЛАР?

## ЛЕПЕЙ ВЕДАЦЬ АДЗІН АДНАГО

*По запрашэнні Камісіі па міжнародных справах і знешнеэканамічных сувязей Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у нашай краіне нядаўна пабывала дэлегацыя Сэйма Латвійскай Рэспублікі на чале са спадаром Аляксандрам Кірштэйнам — старшынёй Камісіі па міжнародных справах.*

*Пра пытанні, якія абмяркоўвалі беларускія і латвійскія парламентарыі, расказвае дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, сакратар Камісіі Вярхоўнага Савета Валянцін ГОЛУБЕЎ.*

— Пасля новых выбараў у Латвіі ў нас неяк перапыніліся міжпарламенцкія сувязі, зменшыліся міждзяржаўныя і міжграмадскія дачыненні, культурныя кантакты. Латышы — нашы суседзі. За ўсю гісторыю з Латвіяй у нас не было ніякіх супярэчнасцяў.

Пасля візіту на Беларусь спадара Бутраса Галі спадар Пётр Краўчанка ўзняў пытанне аб парушэннях правоў чалавека ў Латвіі, у тым ліку і правоў беларусаў, якія жывуць у гэтай краіне. Пытанне гэтае было адным з найважнейшых у перамовах, што адбыліся.

Якая тут пазіцыя латвійскага боку? Латышы апынуліся ў сваёй дзяржаве ў меншасці. Як нацыя яны спрабуюць сябе неяк выратаваць. І той закон аб грамадзянстве, што існаваў і замацоўваў грамадзянства за людзьмі, якія жылі ў Латвіі на 17 чэрвеня 1940 года, а таксама новы — мера вымушаная і, напэўна, мае сваю рацыю. Бо латышы не проста стварылі новую дзяржаву, як напрыклад, Беларусь, а адрадзілі былую. У Латвіі нікога не пазбавілі грамадзянства. Тыя, хто акупаваў краіну, сышлі, засталіся на гэтай зямлі сапраўдныя грамадзяне Латвіі і іх нашчадкі. Зараз суседзі прынялі новы закон аб грамадзянстве. Па сутнасці, беларусам, што жывуць там, вырашаць свае праблемы будзе прасцей. На сённяшні дзень у Латвіі месціцца каля 120 тысяч нашых суайчыннікаў. 20 тысяч з іх ужо з'яўляюцца грамадзянамі краіны, астатнія атрымаюць грамадзянства, калі авалодаюць мовай у неабходных маштабах.

Трэба сказаць, што наш закон аб грамадзянстве больш дэмакратычны, у нас выкарыстаны нулявы варыянт. Мы пайшлі на такі крок дзеля захавання сацыяльнага спакою. Але ў наступным закон, безумоўна, будзе ўдасканальвацца. Веданне беларускай мовы ў неабходных памерах спатрэбіцца і будучым грамадзянам Рэспублікі Беларусь.

Якія пытанні яшчэ абмяркоўвалі парламентарыі абедзвюх краін? Сустракацца трэба часцей — да такой высновы прыйшлі абодва бакі. Неабходна развіваць міжпарламенцкія кантакты, узгадняць свае дзеянні ў міжнароднай палітыцы. Адзначалася, што мы маем шмат агульнага. Патрэбна пашыраць узаемавыгаднае эканамічнае супрацоўніцтва. Праз Беларусь Латвія звязана з Украінай, Літвой, у некаторых месцах з Расіяй. У перспектыве магчыма будаўніцтва нафтавага калектара, які звяжа Балтыйскі і Чарнаморскі рэгіёны. Латвія гатова прадастаўляць свае парты ў карыстанне Беларусі. Шмат гаварылася пра культурнае супрацоўніцтва.

Што тычыцца бязвізавага рэжыму паміж нашымі дзяржавамі, дык ён ужо дзейнічае паміж жыхарамі памежных тэрыторый. Плануецца такое зрабіць і з Літвой. Аднак цалкам бязвізавы рэжым з іншымі дзяржавамі Беларусь усталюе толькі тады, калі яна будзе мець цывілізаваную мяжу на ўсходзе. Латвійская дэлегацыя, напрыклад, уздымала пытанне, што праз нашу тэрыторыю ў іх краіну пранікаюць групы курдскіх перасяленцаў. На польскай, літоўскай, латвійскай межах затрымліваюць в'етнамцаў, і іншых выхадцаў з Азіі і Афрыкі, якія незаконным шляхам імкнуцца праз Беларусь апынуцца ў Заходняй Еўропе. Праблему трэба тэрмінова вырашаць.

І яшчэ пра што хацелася б сказаць. Латышы прадаставілі магчымасць адпачываючым у санаторыі "Беларусь", што на Рыжскім узбярэжжы, а там пераважна аздараўляюцца дзеці з чарнобыльскай зоны, не плаціць за візу. У сваю чаргу суседзі хацелі б бачыць разуменне сваіх праблем ад беларускага боку, каб мы, напрыклад, дапамаглі вырашыць пытанне з памяшканнем для амбасады Латвійскай Рэспублікі на Беларусі.

## ВАРТА Б ПАВУЧЫЦЦА....

*Латвійская парламенцкая дэлегацыя абмяркоўвала пытанні эканамічнага супрацоўніцтва з прадстаўнікамі Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па эканамічнай рэформе, дасягненні самастойнасці і суверэнітэту рэспублікі.*

*Сваімі ўражаннямі дзеліцца дэпутат Вярхоўнага Савета, загадчык сектара Камісіі Уладзімір СТАЎСКІ:*

— Адбыўся абмен думкамі аб ходзе рэформ у двух дзяржавах, прынятых заканадаўчых актах, якія накіраваны на эканамічную рэформу, удасканаленне эканамічных адносін, развіццё розных формаў уласнасці. Разглядаліся пытанні сацыяльнай абароненасці грамадзянаў у перыяд правядзення рэформаў.

Дэлегацыя латвійскага Сэйма расказала пра тыя шляхі, якія спрыялі правядзенню эканамічнай рэформы. Спынюся больш падрабязна на гэтым, бо вопыт суседзяў цікавы і для беларусаў.

Як вядома, у Латвіі ўведзена нацыянальная валюта — лат, якая за кароткі тэрмін стала цвёрдай. У гэты ж час у краіне праводзілася жорсткая грашова-крэдытная манетарная палітыка, якая дазволіла хутка стабілізаваць фінансавы стан дзяржавы. І калі курс лата спачатку планаваўся і быў роўны 1 долару 33 цэнтам, то літаральна праз паўгода ён рэвальвваваўся і зараз адпавядае 1 долару 68 цэнтам.

Латвійскія калегі заўважылі, што ў суседніх краінах склалася не адпавядаючая рэальнасці думка, што Латвія здолела забяспечыць такі курс сваёй валюты за кошт буйных замежных крэдытаў. На самой справе Захад выдзеліў гэтай краіне на 3 гады 320 млн. долараў. І ў асноўным крэдыты выкарыстоўваюцца для развіцця вытворчасці на аснове новых тэхналогій. Сродкі, размеркаваныя праз 66 камерцыйных банкаў, перш-наперш накіраваныя не на праяданне, як гэта, на жаль, робіцца ў нас, а тэхнічнае пераабсталяванне, вытворчасць канкурэнтаздольнай прадукцыі.

Апроч гэтых грошай яны атрымалі 45 млн. долараў ад Міжнароднага банка. Сродкі жорстка выкарыстоўваюцца ў дадзеным напрамку.

Такім чынам, у Латвіі забяспечана цвёрдая валюта шляхам правядзення рэформаў за кошт скасавання субсідый прадпрыемствам, якія дрэнна працуюць і прадукцыя якіх не знаходзіць попыту, тым, што не здолелі перабудавацца ў ходзе рэформаў. Падтрымліваюцца толькі фермеры, сяляне, каб яны па сусветных цэнах набывалі паліва і энергарэсурсы.

У суседняй дзяржаве адмовіліся ад увозу зерня і кармоў з Расіі. Такая цвёрдая палітыка прывяла да таго, што Латвія сёння практычна не мае дзяржаўнай запазычанасці.

У гэтай краіне фактычна спынілася інфляцыя. Яна складае 1 — 2 працэнты ў месяц. Усё гэтае сталася магчымым таму, што праводзіцца разумная і жорсткая крэдытна-грашовая фінансавая палітыка. Зараз валюты ў краіну трапляе нават больш, чым друкуецца сваіх грошай. Курс долара тут падае. І грамадзяне, якія імкнуліся ператварыць долар у тавар, абменьваючы яго на нацыянальную валюту, сёння ў пройгрышы. Лат значна мацнейшы за долар.

У Латвію ідуць буйныя замежныя інвестыцыі. Нашы суседзі маюць намер ажыццявіць цікавы тэлекамунікацыйны праект, які дазволіць краіне ў будучым зарабляць вялікія грошы. Латвія і суседнія дзяржавы будуць мець магчымасць размаўляць з любой краінай свету, мінаючы Маскву. Гэтыя паслугі па якасці будуць не горшыя за заходнееўрапейскія. На праект пойдзе 160 млн. долараў.

Шмат цікавага робіцца на сяле. У Латвійскай Рэспубліцы праведзены выключна вялікія радыкальныя рэформы. Зямля вяртаецца былым уладальнікам, устаноўлены тэрмін, на працягу якога яны могуць прэтэндаваць на сваю былую ўласнасць. У краіне адноўлены грамадзянскі кодэкс 1937 года.

Зараз таксама ідзе прыватызацыя кватэр. Шмат жылля вяртаецца былым гаспадарам, якія некалькі гадоў не маюць права пазбавіць арандатара жылплошчы. Пасля вызначанага тэрміну пытанне вырашаецца на карысць уладальніка.

Сёння трэцяя частка зямель, у тым ліку лясы, доследныя станцыі і шэраг іншых важкіх сельскагаспадарчых прадпрыемстваў аддадзены ў карыстанне дзяржаве. Астатняе — можа арандавацца бясплатна любым жадаючым грамадзянінам, а таксама асобамі, якія хаця і не з'яўляюцца грамадзянамі, але жывуць і працуюць на тэрыторыі Латвіі.

На вёсцы адкрываецца шмат малых прадпрыемстваў па вытворчасці рознай прадукцыі, перапрацоўцы малака, мяса, садавіны, гародніны, па выпуску тавараў шырокага ўжытку, якія карыстаюцца попытам. Юрыдычныя асобы, малыя прадпрыемствы, сяляне арыентуюцца на рынак. Усё гэта вядзе да хуткай структурнай перабудовы.

Латвійскія госці расказалі таксама пра тыя працэсы, што адбываюцца ў суседняй Эстоніі, якая першай з былых рэспублік СССР распачала шлях да рынку. У Эстоніі зараз шырока расчынены дзверы для замежных інвестараў. Краіна адмяніла ўсе мытныя бар'еры, што прывяло да вялікага ўнёску заходніх дзяржаваў у эстонскую эканоміку, значнага патоку разнастайных тавараў. У гэтай краіне назіраецца хуткі ўздым эканомікі за кошт стварэння малых прадпрыемстваў па вытворчасці новых відаў прадукцыі. Асабліва гэта характэрна для вёскі, дзе адбываецца значны рост занятасці насельніцтва. Людзі перавучваюцца, уключаюцца ў вытворчасць не толькі сельгаспрадукцыі, але і выпускаюць новыя тавары народнага ўжытку. Структурная перабудова дае такім чынам хуткую аддачу ў бюджэт, шпарчэй рухаюцца эканамічныя рэформы. У той жа час усё гэта дае магчымасць насельніцтву зарабляць грошы і забяспечваць прыстойны ўзровень жыцця.

Паміж балтыйскімі дзяржавамі заключана дамоўленасць аб свабодным гандлі і мытных тарыфах. Падпісаны дакументы аб неабкладанні падаткамі гандлю з Швецыяй і Даніяй. Шэраг выгадных дамоўленасцей — і з Расіяй. Латвія мае намер заключыць пагадненні з Украінай.

Наша паўночная суседка падпісала дагавор аб свабодным гандлі з Еўрапейскім супольніцтвам. Краіна мае статус асацыяванага члена ЕС з наступнай інтэграцыяй у абарончую сістэму Еўрапейскай бяспекі.

Латышы выказалі пажаданне далей наладжваць плённыя добрасуседскія адносіны з Беларуссю.

**Надзея АЛЕСІЕВІЧ.**

## Гі ЛАРДЭЙРЭ

# ПРЭЗІДЭНЦКІ РЭЖЫМ

Адзіны вядомы прыклад прэзідэнцкага рэжыму, які працуе задавальняюча, — гэта Злучаныя Штаты Амерыкі. Вынайдзены амерыканцамі, ён нарадзіўся разам з самой краінай. Прэзідэнт кіруе супольнасцю штатаў з дапамогай сакратароў. Ён мае абмежаваныя паўнамоцтвы, якія тычацца абароны і міжнародных спраў. Ён можа сутыкнуцца з варожасцю Кангрэса, нягледзячы на тое, што выбары прэзідэнта і заканадаўцаў адбываюцца адначасна. Прэзідэнт-рэспубліканец перыядычна вымушаны супрацьстаяць дэмакратычнай большасці ў Палаце Прадстаўнікоў і нават у Сенаце па прычынах, якія тлумачацца размеркаваннем выбарчых акругаў. Сітуацыя не з'яўляецца трагічнай, таму што пры прэзідэнцкім рэжыме няма патрэбы ў строгай партыйнай дысцыпліне ў час галасавання дэпутатаў. Парламент і выканаўчая ўлада вымушаны знаходзіць паразуменне, бо не могуць пазбыцца адзін аднаго.

Усе спробы акліматызаваць гэтую сістэму на іншых шыротах — галоўным чынам у Лацінскай Амерыцы — праваліліся. Калі дэмакратычная традыцыя яшчэ не ўкаранілася, калі палітычныя партыі слабыя і неарганізаваныя, калі ўся ўлада цэнтралізваная, — усё палітычнае жыццё ў гэткіх умовах канцэнтруецца вакол барацьбы за пасаду прэзідэнта рэспублікі. Адсюль вынікае раздрабненне палітычных сіл на групоўкі, на чале якіх становяцца найбольшыя славалюбы. Фракцыя, якая атрымлівае перамогу, бярэ пад свой уплыў шматлікіх прэтэндэнтаў на ўладу і перашкаджае ўзнікненню аб'яднанай ды вартай даверу апазіцыі. Прыхаваны канфлікт паміж кіраўніком выканаўчай улады, абраным на аснове ўсеагульнага выбарчага права, і заканадаўчай уладай, без якой ён не ў стане кіраваць, часцей за ўсё вырашаецца на карысць прэзідэнта. Лацінская Амерыка ў гэтым сэнсе з'яўляецца эксперыментальнай пляцоўкай — тым больш цікавай, што яе палітычная культура блізкая да еўрапейскай.

Выключны выпадак уяўляе сабой Балівія. Там дзейнічалі ў адпаведнасці з прынцыпам, што самы кароткі шлях да ўлады — гэта выкарыстанне сілы, і таму змена кіраўніцтва аж да нядаўняга часу ў гэтай краіне ажыццяўлялася з дапамогай войска, хоць кроў там пралівалася і не заўсёды. Лічылася прыстойным збіраць атрады сваіх прыхільнікаў і чакаць зручнай нагоды для штурму прэзідэнцкага палаца. Атрымаўшы незалежнасць у 1825 годзе, краіна зазнала прыблізна 168 дзяржаўных пераваротаў і 147 прэзідэнтаў, некаторыя з якіх панавалі ўсяго некалькі гадзін, а рэкордны тэрмін прэзідэнцтва доўжыўся дзесяць гадоў.

Каб захаваць уладу ў гэткіх умовах, недастаткова трымаць пад сваім кантролем войска. Сапраўды, немагчыма кіраваць доўгі час насуперак грамадскай думцы, калі не скарыстоўваць таталітарныя — іншародныя для мясцовай традыцыі — сродкі. Прэзідэнт мае патрэбу ва ўсенароднай падтрымцы. Ён набывае яе праз стварэнне партыі-гегемона, якая атачае дзяржаўныя органы і аплятае сваімі шчупальцамі грамадства. Менавіта гэты метад скарыстаў у суседняй краіне — Парагваі — генерал Стрэснер, які цараваў у ёй 42 гады, што таксама складае рэкорд. Кожныя выбары ператвараліся ў яшчэ адзін плебісцыт. Большасць афрыканскіх рэжымаў функцыянуюць або спрабавалі функцыянаваць па гэтай мадэлі.

Забарона на аднаўленне прэзідэнцкага мандата ў некаторых краінах — гэта ўсяго толькі тэатральны жэст. Палітычны эфект ад такой забароны нязначны. Па-першае, гэты артыкул можа быць скасаваны тым, хто дарваўся да ўлады. Аднак часцей гэтая забарона замацоўвае пераемнасць улады за апаратам партыі. Дастаткова на кожных выбарах мець новага, але свайго чалавека на прэзідэнцкай пасадзе. Ратацыя кадраў, такім чынам, дазволіць толькі палепшыць размеркаванне даходаў паміж партыйнымі бонзамі.

Цяпер мы можам зразумець мексіканскі рэжым. Прэзідэнт Мексікі не мае права быць выбраным на другі тэрмін. Канстытуцыйна-рэвалюцыйная партыя кантралюе праз дзяржаўныя органы прывадныя рамяні грамадства. Яна нейтралізуе дысідэнтаў раней, чым тыя паспеюць распачаць спрэчкі вакол яе палітыкі. Дзяржаўныя органы багатыя на сінекуры. Новы прэзідэнт рэспублікі выбіраецца кожныя шэсць год з ліку партыйных іерархаў — і кожны з іх мае надзею пабачыць сябе на гэтай пасадзе. У мінулым дзейнічала няпісанае правіла, згодна якому выбіралі не заўсёды самага здольнага: гэта адзін са сродкаў абмежаваць прэзідэнцкія паўнамоцтвы. Унутры партыі, аднак, выспявалі крыўды, вынікам чаго стаўся пачатак расколу. Мадэль кіравання дала трэшчыну, і сёння Мексіка са сваім высокім эканамічным патэнцыялам дэманструе намер перагледзець сваю палітычную сістэму.

**Пераклаў з французскай Юрась БАРЫСЕВІЧ.**

* * *

**АД РЭДАКЦЫІ. Сёння мы яшчэ не ведаем, хто будзе абраны першым Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, але спадзяемся, што вопыт прэзідэнцкага праўлення ў іншых краінах паслужыць яму перасцярогай ад злоўжывання паўнамоцтвамі, якія надае яму наша новая Канстытуцыя. Хочам таксама выказаць удзячнасць Фонду "Сорас-Беларусь" за дазвол апублікаваць урывак з кнігі "Канстытуцыі і сістэмы выбараў: што кажа гістарычны вопыт".**

ДА 50-ГОДДЗЯ ВЫЗВАЛЕННЯ БЕЛАРУСІ

Віктар ГРАМЫКА, народны мастак Беларусі, прафесар, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны:

# «ЛІЧУ, ШТО РЭАЛІЗМ ЯШЧЭ АПОШНЯГА СЛОВА НЕ СКАЗАЎ...»

**— Віктар Аляксандравіч! У альбоме, які выйшаў у Мінску ў 1979 годзе, я з цікавасцю разглядала Вашу карціну "Песня аб маім атрадзе". Карціна, як мне падалося, вельмі метафарычная, але ж атрад існаваў на самой справе...**

— У мяне ёсць маленькі варыянт гэтай карціны, сама яна дзесьці ў Маскве. Наогул, у Беларусі вельмі мала маіх тэматычных палотнаў, і вярнуць іх цяпер складана. Частка іх знаходзіцца ў сховішчах, у музеі, некаторыя рэчы ў Траццякоўскай галерэі. Я атрымаў прэмію Усесаюзнага Ленінскага камсамола за карціну "Край Полацкі, край партызанскі", але нідзе асабліва яе не выстаўляў. Што датычыцца атрада... Гэта Смаленскі партызанскі полк асобага прызначэння. Камандаваў ім Іван Фёдаравіч Садчыкаў. У Мінску, у Музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, вісіць партрэт, які я напісаў у 1982 годзе. Гэта наш камісар, Андрэй Фёдаравіч Юр'еў.

Баявыя сцежкі майго атрада пралеглі па Віцебскай, Смаленскай, Полацкай, Вілейскай вобласці. Полк наш быў рэйдавы, ён хадзіў і пастаяннага месца дыслакацыі не меў. У 1943 годзе стаў падначалены штабу партызанскага руху, а раней быў пры штабе Заходняга фронту. Яго касцяк — кадравыя афіцэры. Гэта быў вельмі баявы, вельмі дружны калектыў. У нас нават танкі былі — "Т-34", звышмагутны "КВ" і лёгкі танк "Т-26" — яны прымалі ўдзел у баявых аперацыях, за выключэннем, праўда, магутнага "КВ", якому патрабавалася многа паліва, а паліва не было. Гэта тыя танкі з Багушэўска, што рамантавалі нашы палонныя танкісты, а потым уцяклі на іх да партызан.

**— У многіх Вашых карцінах, прысвечаных тэме вайны, заўважаецца цяга да ліку "тры". "Салдатаў" — трое. "1941 год. Над Прыпяццю" мае таксама трох дзейных асобаў. Трое дзяўчат на карціне "Жанчынам Вялікай Айчыннай прысвячаецца". Трое (калі не лічыць немаўля на руках маладой жанчыны) на карціне "Яблыкі ўраджаю 1941 года". Гэта што, закон жанру ці нейкі вышэйшы, боскі сэнс?**

— Калі казаць пра фармальную кампазіцыю, то гэта мінімальная лічба, якая дазваляе паспяхова будаваць рытміку плана, лінейную рытміку, рытміку колеру і рытміку ўнутранага жыцця герояў. Тут ужо не дыялог. Тут у кожнага свой лёс, як у тых трох салдат на карціне "Салдаты".

А калі вы бачыце, што за кожным паўстаюць пэўныя жыццёвыя калізіі, прычым розныя, значыць, мастак дасягнуў большага, чым фармальнае мэты. Аднак, ведаеце, лёс гэтай карціны даволі дзіўны. Я не магу сказаць, як некаторыя гэта робяць, што мяне ў тыя застойныя часы не паважалі ці ходу не давалі. Аднак, калі фарміравалі Усесаюзную выстаўку, карціна не была ўзятая па вельмі на цяперашні час смешнай прычыне. Яе не прапусцілі "спецыялісты" з Міністэрства культуры: іх, бачыце, не задавальняла, чаму гэта салдаты, ветэраны, з чаркамі ў руках. Адзін з іх з квартай, двое — са шклянкамі... Толькі з-за гэтага карціна ў Маскву пайшла пазней.

**— Вам даводзілася рызыкаваць?**

— На вайне? Даводзілася. Бо я і ў разведку хадзіў, і быў кулямётчыкам, і выконваў спецзаданні. Каб узарваць на "Асінторфе" турбіну, трэба было перадаць магнітную міну. Недалёка стаяла запасная нямецкая дывізія. Кожная вёска была нафаршыравана такой тэхнікай — не прабіцца!

Міну мы перадавалі днём, праз сувязную. Стаіліся ў невысокім алешніку, чакаем, праз метраў дзесяць — дарога, па ёй рухаюцца вазы з лесам і аховаю — побач палонныя вялі распрацоўку лесу. Немцы былі зусім блізка, мы бачылі, што яны робяць. А мы, накрыўшыся маскіровачнымі палаткамі, з аўтаматамі на ўзводзе, як кажуць, і не дыхалі — бо ў любую хвіліну магло здарыцца што заўгодна.

Сувязныя з вёскі прынеслі нам паесці: малака, хлеба, яблыкаў, і мы, у немцаў пад носам, перадалі міну.

**— А ў творчасці Вы рызыкавалі?**

— Калі ўзяць палатно "Жанчынам Вялікай Айчыннай прысвячаецца", то тут я шмат шукаў у кампазіцыі. Мне хацелася паказаць нашых прыгожых дзяўчат. Вайна — гэта не жаночая, тым больш не дзявочая справа, і праз кантраст аголенага дзявочага цела, праз сухія, счарнелыя прыклады вінтовак (яны ляжаць паралельна адна да адной, трохі ўмоўна) я хацеў падкрэсліць неверагодны подзвіг нашых жанчын на вайне. Гэтая карціна некалі на выставе ў Манежы — Цэнтральнай выставачнай зале СССР — выклікала вельмі неадназначную рэакцыю. Прыхільна сустрэлі карціну мастакі і мастацтвазнаўцы — як новае слова, і вельмі адмоўна — вайскоўцы. Яны проста не так яе прачыталі...

Прайшло некалькі гадоў, і за серыю сюжэтна-тэматычных карцін мне быў прысуджаны сярэбраны медаль Мітрафана Грэкава.

**— Але, на жаль, цяпер так званы сацыялістычны рэалізм не ў вялікай пашане...**

— Я лічу, што рэалізм яшчэ свайго апошняга слова не сказаў. Увесь свет са здзіўленнем бачыць, і нават прызнае, што гэта цуд XX стагоддзя. Так званыя цывілізаваныя краіны не збераглі школы, а мы — збераглі. Такога прафесійнага ўзроўню, як казаў нядаўна Аляксандр Кішчанка на абароне дыпломных работ у мастацкай акадэміі, не дасягнула ніводная краіна. Ён быў у Англіі, там не маглі паверыць, што ў Беларусі такі высокі ўзровень мастацтва.

**— Вайну малявалі, вайну здымалі, пра вайну пісалі раманы і былі. Як Вам здаецца, Віктар Аляксандравіч, ці ёсць у гэтым шэрагу айчынныя творы, якія перажывуць стагоддзі?**

— Былі розныя перыяды. Ведаеце, Віктар Някрасаў у "Акопах Сталінграда" (твор, які я прачытаў з вялікай цікавасцю) даволі сціпла паказаў адваротны бок вайны. Паказаў не толькі гераізм людзей, але і розныя бакі чалавечай псіхікі, чалавечых паводзінаў і магчымасцяў у розных сітуацыях. Аднак твор быў у штыкі сустрэты і крытыкай, і чытачамі. Зараз нам ён здаецца звычайным творам. "Жывыя і мёртвыя" Сіманава, раман, таксама недзе ўбаку. Такі ж фільм — ці ў пракаце ён, ці мае поспех? Наўрад ці.

Мне здаецца, зараз, калі грамадства разгублена, то і мастацтва страціла сваю ранейшую ўпэўненасць у сваіх метадах, згубіла накіраванасць, прыпыніла пошукі. Вы ведаеце, у якім стане знаходзяцца кінематограф, тэатр, літаратура. Які сэнс мае праца літаратара, калі стала немагчымым выдаваць напісанае?

Канешне, і выяўленчае мастацтва стаіць на вельмі і вельмі складаным перапуцці. Знік заказчык не толькі на тэматычную карціну. Але вельмі кепскі час і для створаных помнікаў. А колькі над імі працавалі і скульптары нашы, і манументалісты, і жывапісцы. Можа, гэта проста гістарычная паўза настала? Тут складана рабіць прагноз.

**— Чаго б Вам хацелася?**

— Хацелася б, каб тое, што ёсць, захавалася. Была вёска Дальва — і не стала: у чэрвені 1944 года яе разам з жыхарамі спалілі фашысты. Але быў пабудаваны мемарыяльны комплекс. Помнік гісторыі, помнік мастацтва. І вось чытаеш: "Дальва" разбурана. Не верыцца, што нашы суайчыннікі, унукі салдат, дайшлі да такога вандалізму.

Ля Дуброўна, калі пачыналася аперацыя "Баграціён", загінула каля 10 тысяч нашых салдат — такі небяспечны быў гэты ўчастак. Гэта найбуйнейшае брацкае пахаванне. Скульптар Мікола Рыжанкоў дзесяць гадоў працаваў над рэльефамі. Маналітны помнік па-варварску, з дапамогаю зварачных апаратаў, парушаны — дзеля таго, каб спекуляваць за мяжою, нажыцца на чырвонай медзі. Ды й звычайныя могілкі разбураюць, палюючы на бронзу. Трэба, каб грамадства лепш ставілася да таго, што мы стварылі, бо не проста памяць растоптваецца — гэта наогул жудасная з'ява ў гісторыі нашай культуры.

50 гадоў, як адгрымелі бai на Беларусі. Мы кожны год сустракаліся, выязджалі на месцы баёў. Былыя байцы, камандзіры атрадаў зараз раскіданыя па розных краінах былога Саюза. На Ушаччыну сёлета, відаць, не прыедзе 20 чалавек, каго запрашалі. Хоць бы пяцёра аднапалчан сабралася...

Калі мы сустракаемся, мы перш за ўсё ўспамінаем тыя дні, калі былі маладымі, моцнымі, бадзёрымі, нават не страчвалі добрага настрою ў самыя крытычныя моманты.

Што нас ратавала? Маладосць, фізічная падрыхтоўка і, канешне, светлая вера. Мы жылі надзеяй, што калі скончыцца вайна, а ніхто не сумняваўся, што вораг будзе разбіты, што будзе наша перамога, то наступяць добрыя змены. Пасляваенныя гады прайшлі для нас у вельмі напружаным рытме. Усе былыя партызаны, амаль без выключэння, знайшлі сабе добрае месца і ў народнай гаспадарцы, і ў культуры.

Зараз, калі мы сустракаемся, праўда, усё больш рэдка і ў рэдкім складзе, нас усё менш і менш — і гэта зразумела, мы не страчваем надзею. Маштабы ходу гістарычнага гадзінніка не зусім супадаюць з рытмам гадзінніка біялагічнага. Час нашага жыцця кароткі. На жаль, тое, што задумвалася, адбылося трохі не так, і не ўсё мы паспелі. Аднак мы адыходзім з верай, што не будзе забыты наш ратны ўнёсак, што на старонках гісторыі застанецца хоць некалькі радкоў пра нас.

**— Дзякуй, Віктар Аляксандравіч. Будзем спадзявацца на тое. Я хачу верыць, што памяць пра салдат, якія адстаялі мір у 44-ым, у 45-ым, будзе жыць у сэрцах удзячных нашчадкаў, колькі б гадоў ні мінула — 50 ці 150...**

**Гутарку вяла**
**Алена ТРУСАВА.**

# "КАНЕШНЕ, ЖЫЦЦЁ ЦУДОЎНАЕ..."

**Пісьмы... Яны бываюць розныя — напісаныя ў шчасці ці роспачы, альбо проста напісаныя ў тую часіну, калі хочацца параіцца ці падзяліцца сваімі пачуццямі і марамі. Пісьмы... Кароткія і доўгія, чаканыя і нежаданыя. Але, мусіць, ніводнае з іх нельга параўнаць з салдацкімі, якія пісаліся ў кароткія хвіліны перадыху паміж баямі. Яны заўжды былі жаданымі. Як іх чакалі — гэтыя маленькія трохкутнічкі! Надзвычай простыя, напісаныя сэрцам, такія шчырыя — гэтыя пісьмы, што захоўваюцца ў нашым музеі, яскрава сведчаць аб мужнасці, сціпласці і высакародстве салдата, яго любові да роднай зямлі.**

*"5 сентября 1943 г. Здравствуй, родная моя! Целую тебя с детишками крепко, крепко. Я пока еще жив и здоров, хотя приходится быть в таком положении, когда кажется, что на тебя падает небо с громами и молниями. И сейчас на досуге пишу тебе письмо, сидя в хате, а за деревней в 20 км с воздуха беспрерывный гул вражеских самолетов, который сопровождают целые пачки осветительных ракет и вперемежку с ними бомбы. 30 августа я один из первых на танке въехал в Ельню, в 24 часа, среди горящих зданий я прогулялся по своему городу. Картина заслуживает кисти художника. Кругом валяются трупы убитых немцев.*

*... О Вас у меня душа болит. Ну ничего, переживем эту проклятую бойню, потом будет хорошо. Будьте здоровы, не беспокойтесь обо мне. Целую крепко всех, всех родных. Ваня."*

Прайшло ліхалеццe. Сустрэліся пасля вайны Кацярына Сямёнаўна (гэта ёй адрасавалі ліст) і Іван Мікалаевіч Свелакузавы. Свае апошнія гады жыцця І.М.Свелакузаў, былы палкоўнік, правёў у нас у Слуцку, і яго лісты трапілі да нас.

На жаль, многія не вярнуліся дамоў, не давялося ім убачыць шчаслівыя слёзы родных. Не вярнуўся і Казімір Цывунеліс у вёску з прыгожай назвай Лазараў Бор, дзе нарадзіўся юнак. У 1944 годзе яму было ўсяго 22 гады.

*"25.08.44. Добры дзень, дарагая сястра Стася. Шлю табе прывітанне і сваю награду, каторую я заслужыў у баях за станцыю. Уручаю табе, Стася, каб ты яе сахраніла".* Выканала просьбу, захавала *Стася награду — падзяку гвардыі генерал-маёра В.Барысава, у якой ёсць такія словы: "Дорогой товарищ Циунелис Казимир Казимирович! Часть, в которой ты служишь, награждена орденом Красного Знамени. Эта высокая награда завоевана солдатской кровью в битве за станцию Черемха. В этой победе есть и твоя доля трудов..."* Аглядаючы экспазіцыю музея, наведвальнікі затрымліваюцца і каля другога ліста.

*"14 марта 1945 г.*

*Здравствуй, милая Ольга Д...!*

*Спешу тебе сообщить, что я сам жив и здоров, чего и тебе желаю.*

*... Сегодня ровно год со дня рождения нашего сына. Я ждал этот день и решил написать тебе еще одно письмо, одно послал вчера. Я уже две недели участвую в боях с фрицами. Сегодня пока есть возможность написать тебе несколько слов. Завтра иду опять в бой и в более серьезный, чем прошлые... Не знаю, придется ли написать тебе еще хоть одно письмецо. Если только останусь жив..."*

Пасля гэтага бою Антон Кулеш застаўся жывы. І неаднойчы атрымлівала яго Вольга пісьмы, поўныя цеплыні і пяшчоты.

*"12 апреля 1945 г. Милая Ольга, рад получить от тебя письмо, услышать слова той женщины, о которой не могу забыть ни на одну минуту... Оля, пиши! Быть может там, в бою, сердце примет твои слова и станет еще твердей и сильней. ... не забыть мне тебя, покуда сердце бьется, оно не даст покоя руке, которое пишет его послания к тебе. Будет жизнь и любовь. До свидания, дорогая жена Ольга. Твой муж Тоня".*

Антона, як усякага вясковага чалавека, з надыходам вясны цягнула да зямлі, да абуджанай прыроды. Любіў ён назіраць за ёй у часы перадыху паміж баямі, паразважаць, памарыць.

*"5.04.1945 г. Добрый день, милая Ольга Д! ... Начну тебе описывать свою жизнь с природы. Светлый, тихий, ясный вечер после дождика. Все оживает. На полях зеленеет уже довольно поднявшаяся озимь. Где-то вдали в местечке виден острый купол церкви. Большую часть своего времени я провожу среди этой весенней красоты. Вчера я уже нашел был в луге цветы. Два из них мне очень понравились. Долго я на них смотрел, а потом сорвал и прицепил к гимнастерке. Вспоминается мне много чего прошлого. Конечно, жизнь прекрасна..."*

Чакала Вольга маленькіх трохкутнічкаў, не раз выбягала насустрач паштальёну з малым Толікам на руках. А пісем усё не было. Аніякіх звестак пра Антона. 9 мая аднавяскоўцы плакалі ад радасці — бо прыйшоў доўгачаканы дзень Перамогі. Плакалі ўдовы, залівалася слязьмі і Вольга, не ведаючы нічога пра Антона, але з надзеяй... І толькі ў студзені 1946 г. атрымала яна невялічкую паперку, ад якой пацямнела ў вачах: "Уважаемая Ольга Даниловна! ... Ваш муж Кулеш Антон Антонович 1922 г. рождения погиб геройской смертью в боях с немецкими захватчиками 1 мая 1945 г. и похоронен с отданием всех воинских почестей". Сярод веснавой берлінскай квецені, якой любаваўся Антон, ён застаўся ляжаць назаўжды.

1945 год... З кожным днём усё далей на захад рухаліся нашы войскі.

*"... Мы сменились и заняли передний край и первые траншеи так, что до фрицевских траншей местами доходит до 100 метров. Не зевай, голову не показывай зря, а то снайпер нажмет на мушку... Неизвестно, что нас ждет впереди. Но свою судьбу я знаю почти на сто процентов. Едва ли придется прожить и двадцатую часть, но это требует Родина и свой долг перед ней мы должны выполнить. Крепко целую тебя, маму и Сашу".*

Гэтыя радкі з пісьма жыхара нашага горада, старшыны Савецкай Арміі Сацука Аляксандра Тарасавіча, напісаныя 1 студзеня 1945 года ва Усходняй Прусіі да сваёй дачкі Лялі — Ларысы Аляксандраўны Лук'янцавай, якая шмат гадоў працавала бібліятэкарам у школе. Апошняе пісьмо яе бацькі было напісана 28 студзеня 1945 г. адразу пасля ўзяцця горада Гердаў. А загінуў ён 30 студзеня пад населеным пунктам Лендэнао ва Усходняй Прусіі.

*"... нельзя описать той радости, которую переживают наши бойцы, когда получили известие в два часа ночи о полной капитуляции фашистской Германии. Этот радостный день запомнит каждый на всю жизнь... Этот день радостно будут встречать все народы, кому дорога честь и независимость своей Родины, так как нам дорога честь нашей Родины, которую мы выстояли, победили... Марусенька, первый день живем в мирной обстановке, когда чувствуешь себя победителем правого дела и с такой гордостью ходят наши бойцы... Поздравляю всех Вас с великим праздником 9 Мая, днем окончания Великой Отечественной войны, с днем торжества над фашистскими захватчиками..."* Так пісаў 9 мая 1945 года з Берліна наш зямляк Гілеп Аляксандр Васілевіч сваёй жонцы. У 1944 г. ён удзельнічаў у вызваленні Слуцка ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. На жаль, сёння няма ўжо яго побач з намі — радзее гвардыя ветэранаў з кожным годам. А гэтае пісьмо разам з фотакарткаю перадаў нам сын — Гілеп Уладзімір Аляксандравіч, першы намеснік міністра культуры і друку рэспублікі.

Кожны год аддаляе нас ад апошніх залпаў Вялікай Айчыннай, але застаюцца ўспаміны, пісьмы з фронту — тая часцінка, якая дапаўняе яшчэ далёка не поўны летапіс вайны. Якое ў іх багацце пачуццяў і думак! Разам яны складаюць старонку гісторыі, "гісторыю, якая не старэе ад часу і заўжды застаецца жывой у памяці народнай".

**В.ВІДЛОГА, дырэктар**
**Слуцкага краязнаўчага музея.**

Валянцін ТАРАС

# Над старым здымкам

УСПАМІН І РОЗДУМ

**Гэты хлопчык з медалём на грудзях нядаўна выйшаў з лесу, з Налібоцкай пушчы, — здымак зроблены ў Менску, у апошнія дні ліпеня 1944 года. Ужо адбыўся славуты партызанскі парад у раёне Лошыцы, пасля якога хлопчыку і ўручылі гэты медаль — "Партызану Айчыннай вайны" II ступені, расфармаваны ўжо атрад, байцом якога быў хлопчык. Для яго вайна скончылася. Яму — чатырнаццаць год, і ісці ў войска, каб ваяваць далей, як яго старэйшыя таварышы, ён не мусіць, узрост яго не прызыўны. Хоць ён і збіраўся яшчэ павяваць: запісаўся ў знішчальны батальён, які павінен быў дзейнічаць у той жа Налібоцкай пушчы, вылаўліваць там нямецкіх салдат, што апынуліся ў акружэнні, аднак не жадалі здавацца ў палон, спрабавалі неяк праравацца на захад, да сваіх, а таксама вылаўліваць паліцаяў, якія баяліся кары за сваю службу немцам і цяпер хаваліся ў былым партызанскім лесе.**

Пра тое, чаму хлопчык так і не стаў байцом таго знішчальнага батальёна, чаму ён на гэтым здымку апрануты ў завялікі для яго нямецкі фрэнч, чаму і пілотка на ім нямецкая (эмблема вермахта спората і на яе месца прышпілена чырвоная зорачка), пра тое, кім і пры якіх акалічнасцях зроблены здымак, пра тыя ліпеньскія дні, пра далейшы лёс хлопчыка мой расказ.

З лесу хлопчык выйшаў не ў гэтым трафейным адзенні — выйшаў у спраўных даматканых портках і даматканай куртцы, прыдбаных у адной з вёсак на Валожыншчыне, у спраўных ботах, прыдбаных там жа, — партызаны не армія, ніхто іх не апранаў і не абуваў у цэнтралізаваным парадку, бралі тое, што трэба, у вёсках, у якога-небудзь дзядзькі, і карміліся за кошт таго ж дзядзькі, хацеў ён гэтага ці не хацеў... І, вядома, ніхто партызан не ўзбройваў, са склада вінтоўку ніхто не выдаваў, — узбройваліся самі, за кошт таго, што кінула Чырвоная Армія ў сорак першым, калі была разгромлена пад Брэстам, пад Баранавічамі, пад Маладэчна і Менскам, а таксама за кошт немцаў, за кошт трафеяў. Вось і ў хлопчыка, калі ён прыйшоў са сваім атрадам у Менск, быў трафейны карабін і трафейная граната за поясам, а яшчэ трафейны парабелум, які, праўда, хлопчык здабыў пад самы ўжо канец свайго партызанства, у тым жа ліпені сорак чацвёртага, калі зброя наогул ужо была яму непатрэбная. Аднак чатырнаццацігадоваму ваяку дужа хацелася хоць крыху пакрасавацца з гэтым парабелумам на баку, паказацца сваім блізкім і сябрам-равеснікам у поўным узбраенні. І як толькі прыйшоў атрад у Менск і раскватараваўся на вуліцы Чкалава, хлопчык папрасіў у сваіх камандзіраў дазволу збегаць дахаты, на Пушкінскі пасёлак, адкуль ён і падаўся напрыканцы сорак другога ў партызаны, — на Пушкінскі пасёлак, дзе заставаліся яго маленькая сястрычка Таечка, маміна сястра Люся і бабуля Гэля. (Маці памерла яшчэ да вайны, дакладней, у "фінскую вайну", у студзені саракавога, бацьку забралі ў войска яшчэ ў траўні сорак першага.) Яму дазволілі, і хлопчык пабег на той Пушкінскі пасёлак, некаторыя дамы якога — драўляныя двухпавярховыя дамы пабудовы трыццатых гадоў — стаяць і сёння ў раёне вуліц Сурганава, Кузьмы Чорнага і Чарнышэўскага, пабег праз увесь горад, цэнтр якога быў разбураны ўшчэнт, і таму здалёк, з той горкі на галоўнай вуліцы, дзе знаходзіцца Дом работнікаў мастацтваў, каля Дома афіцэраў, быў відзён той раён, дзе жыў хлопчык да вайны, тое месца, дзе стаяць цяпер будынкі школы міліцыі, а да вайны стаялі хаткі Трамвайнага завулка, — тады, у тым ліпені, гэта было суцэльнае папялішча з чорнымі комінамі над ім. Аднак папялішча тое было зялёным і залаціста-жоўтым, бо людзі парабілі на ім агароды, пасеялі авёс і жыта, агарадзілі дзялянкі спінкамі абгарэлых ложкаў і розным іншым жалезным ламаччам...

На вуліцы было поўна вайскоўцаў і амаль не было цывільных, бо ў тыя першыя дні вызвалення насельніцтва Менска складала тысяч 12 — 15: людзі разбегліся па навакольных вёсках, па лясах, бо баяліся, што ў Менску будуць жорсткія баі. І таму, што мінчукоў у горадзе было гэтак мала, нічога неспадзяванага не было нават у самых неспадзяваных сустрэчах, не тое, што цяпер, у двухмільённым горадзе, калі выпадкова сустрэць знаёмага амаль немагчыма. А тады хлопчык адразу сустрэў знаёмых, акурат каля былога Трамвайнага завулка (цяпер гэта вуліца Варвашэні), аднак сустрэча тая дужа ўразіла яго: ён сустрэў былога савецкага камандзіра, малодшага лейтэнанта Лёшу і яго сяброўку, былую ваенную медсястру Аню. У сорак першым яны збеглі са сваёй воінскай часці, пераапрануліся ў цывільнае і засталіся ў акупаваным немцамі Менску, пасяліліся ў тым жа доме, дзе жыў хлопчык да таго, як пайсці ў партызаны. А той Лёша і ягоная Аня нікуды да пары да часу не пайшлі, недзе працавалі, а потым Лёша запісаўся ў паліцаі, хадзіў у чорным мундзіры і з вінтоўкай. І вось цяпер хлопчык сустрэў яго і ягоную Аню і глядзеў на іх, вылупіўшы вочы і не ведаючы, што сказаць, як быць. А той Лёша, вінавата ўсміхаючыся, разгублена глядзеў на хлопчыка, на ягоны медаль, на ягоную зброю і тлумачыў, што вось яны з Аняй вырашылі не ўцякаць з немцамі, што ён гатовы панесці кару за тое, што быў паліцаем, хоць ён, праўда, нікога не забіў, ахоўваў нейкія склады, што ён верыць: савецкая ўлада будзе да яго літасцівай, да яго і да Ані, якая на шостым месяцы цяжарнасці. А тая Аня таксама вінавата ўсміхалася і глядзела на хлопчыка гэтак жа разгублена, што і Лёша. Яны апраўдваліся перад ім, як перад дарослым нашкодзіўшыя дзеці! Хлопчык сказаў сурова, што з імі, і праўда, разбяруцца, і спытаў, ці не ведаюць яны, як там яго сястрычка, Люся і бабуля? Яны адказалі, што не ведаюць, бо даўно ўжо не жывуць на Пушкінскім пасёлку, і хлопчык, сурова кіўнуўшы, пакрочыў далей, а на Камароўскай плошчы збочыў да Інстытута фізкультуры, амаль да сцяны якога тулілася невялічкая хатка, у якой жыў падчас акупацыі даваенны сусед хлопчыка, стары Лапкоўскі са сваёй унучкай і сынам Стасікам. І калі хлопчык зайшоў у хату, яго сустрэў стары Лапкоўскі і адразу пачаў плакаць і расказваць, што Стасіка тыдзень назад, напрыканцы чэрвеня, расстралялі немцы, яго і яшчэ чалавек дваццаць такіх жа маладых хлопцаў, а дзе магіла — невядома.



Хлопчык слухаў і ўспамінаў Стасіка, дужага, прыгожага, з капною залатых валасоў і блакітнымі вачыма, Стасіка, які перад вайною супраць бацькавай волі ажаніўся з яўрэйскай дзяўчынай і яна нарадзіла яму дзіця, а як прыйшлі немцы, вымушана была пайсці ў гета, а дзіця памерла яшчэ да таго, як яна пайшла ў гета, бо ў яе ад жахлівых перажыванняў прапала малако, а ў першыя тыдні і месяцы акупацыі немагчыма было дастаць аніякага іншага малака для дзіцяці, і яно памерла, а маці ягоная загінула ў тым гета падчас першай акцыі, у лістападзе сорак першага. І вось цяпер расстралялі і Стасіка, "за сувязь з партызанамі", як сказаў стары Лапкоўскі — дарэмна, несправядліва хлопчык гэтак кепска думаў некалі пра Стасіка: што той баязлівец, што сядзіць склаўшы рукі і дараваўшы акупантам смерць жонкі і дзіцяці. А пра сястрычку Таечку, цётку Люсю і бабулю Гэлю стары Лапкоўскі сказаў хлопчыку, што іх даўно няма ў горадзе, што іх некуды павезлі немцы — здаецца, у Германію. І не ведаў тады хлопчык, што ён адшукае іх толькі праз семнаццаць год пасля вайны, адшукае ў Польшчы. Але ўжо не Таечку, а пані Тэрэсу Бжэзіцкую... А тады сціснулася ў яго сэрца, і ён заплакаў гэтак жа горка, як плакаў стары Лапкоўскі, як плакала яго ўнучка Томачка, дачка камандзіра Чырвонай Арміі, расстралянага ў трыццаць сёмым годзе, — маці яе заставалася недзе ў Тамбове, куды была саслана разам з дачкой пасля арышту і расстрэлу мужа, а Томачцы дазволілі перад самай вайною з'ездзіць у госці да дзеда... Прыехала!..

Ад Лапкоўскіх хлопчык пайшоў на 2-ю Шостую лінію (цяпер вуліца Багдана Хмяльніцкага) да мастака Мікалая Іванавіча Гусева, бацькавага даваеннага сябра і калегі па прафесіі. У Гусевых яму пацвердзілі, што бабкі, сястрычкі і цёткі ў горадзе няма. І хлопчык вярнуўся на вуліцу Чкалава, дзе раскватараваўся атрад...

Потым быў парад партызан, уручэнне ўзнагарод, расфармаванне. Пасля расфармавання хлопчык атрымаў накіраванне ў нейкае рамеснае вучылішча, у ПТВ, як гэта называецца цяпер, але і думаць пра тое вучылішча не хацеў, вырашыў ваяваць далей і разам з яшчэ адным хлапчуком, крыху старэйшым за яго, пайшоў запісвацца ў знішчальны батальён — у дакументах, якія хлапчукі прад'явілі, у партызанскіх даведках, год нараджэння не ўказваўся, і яны сказалі, што абодвум ужо за шаснаццаць... І як запісаліся яны ў той батальён, то вырашылі, што паколькі іх абмундзіруюць, то можна тую вопратку, якая на іх, абмяняць на рынку на сала, хлеб і на бутэльку самагонкі — яны ж дарослыя, трэба адзначыць і свае ўзнагароды, і вяртанне ў родны горад! Што яны і зрабілі на Чэрвеньскім базары: нейкія барыгі ўзялі ў іх іхнюю вопратку, а ўзамен далі шмат сала і бохан хлеба. І бутэльку смярдзючага самагону. А яшчэ далі ў што пераапрануцца — нямецкае зрэб'е, якога тады хапала, забітых немцаў шмат валялася каля дарог і ў полі...

Ды потым нешта торкнула хлопчыку ў сэрца, захацелася яму яшчэ раз завітаць да мастака Мікалая Іванавіча Гусева, адзінага блізкага яму цяпер чалавека. І як толькі адчыніў ён калітку гусеўскага дома на 2-й Шостай лініі, як кінуліся яму насустрач і Мікалай Іванавіч, і яго дочкі Зоя і Інта, і Тамара Сцяпанаўна Гусева, і закрычалі радасна: "Бацька твой знайшоўся! Знайшоўся бацька! Ён быў тут гадзіну назад! Кінуўся шукаць цябе! Пакінуў табе запіску!" Хлопчыку аддалі запіску, і ён прачытаў словы, паспешліва напісаныя алоўкам: "В редакции "Советской Белоруссии" или в других редакциях". І хлопчык пабег у Дом друку, дзе ўжо размясціліся рэдакцыі газет — і падпольная яшчэ ўчора "Звязда", і "Чырвоная змена", і "Советская Белоруссия", якая вярнулася з эвакуацыі. Пабег — і на той жа 2-й Шостай лініі лоб у лоб сутыкнуўся з афіцэрам у пагонах старшага лейтэнанта, з медалём "За боевые заслуги", з пісталетам у жоўтай кабуры. Афіцэр гэты быў яго бацька.

У той жа дзень бацька і сфатаграфаваў хлопчыка непадалёк ад дому Гусевых. І папрасіў забыць пра знішчальны батальён. Хопіць!

А хлопчык гэты — я. І разам з тым не я. Ён даўно ўжо не проста аддаліўся ад мяне, але і аддзяліўся, застаўшыся ў гісторыі, на беразе далёкіх год, на суровым полі Вялікай Айчыннай вайны. І хоць не зарасло тое поле ў маёй памяці, хоць і сёння да дробязей помняцца тыя ліпеньскія дні, ды і ўся вайна, той хлопчык і я — розныя людзі. Бо гэты хлопчык поўны ілюзій, поўны наіўных спадзяванняў на нешта зусім новае, прыгожае і радаснае, чыстае і высокае, што чакае яго ў жыцці. Ён верыць ва ўсё савецкае, верыць у Сталіна, і доўга яшчэ будзе верыць, аж да пяцьдзесят шостага, і калі Сталін памрэ ў пяцьдзесят трэцім, ён будзе плакаць гэтак жа горка, як плакаў разам са старым Лапкоўскім, горка і шчыра, нібы страціў самага блізкага чалавека, не задумваючыся над тым, што гэты "самы блізкі чалавек" расстраляў зяця старога Лапкоўскага і саслаў яго дачку, будзе плакаць, не задумваючыся над тым, што гэты "самы блізкі чалавек" назваў "бязроднымі касмапалітамі" тых, каго пагалоўна вынішчалі нацысты, да каго належала няшчасная жонка Стасіка Лапкоўскага, будзе плакаць і напіша з нагоды смерці "бацькі ўсіх народаў" вершы аб ім, якімі яго праз сорак гадоў упікнуць развязныя і цынічныя пісакі, якія ніколі ні ў што не верылі, ніколі не мелі хай сабе памылковых, але глыбокіх перакананняў, а проста служылі і служаць тым, хто пры ўладзе, хто плоціць ім грошы...

Але прыйдзе час, і ён, гэты хлопчык, пачне думаць, пачне задумвацца над тым, у што ён верыць. Ён захоча праверыць сваю веру веданнем, фактамі. І роздум над тым, што прынясе яму веданне, плынь часу спакваля, але жорстка, разбураючы ілюзіі і ўбітыя ў галаву яшчэ з дзіцячага садка догмы прывядуць яго да новых цвярозых, здабытых пакутамі сэрца і розуму перакананняў. Ён павінен будзе зруйнаваць сталінскую казарму ў сваёй душы, па кроплі выціснуць з сябе сталініста, як Чэхаў па кроплі выціскаў з сябе раба. Ды, урэшце, сталініст і раб — адно і тое ж.

Ён, гэты хлопчык, прыйдзе да новага разумення Бацькаўшчыны, усвядоміць, што яго Бацькаўшчына не імперыя, якая належыць усім насяляючым яе народам і таму не належыць нікому, акрамя імперскіх сатрапаў і іхніх паслугачоў, усвядоміць, што ў яго Бацькаўшчыны ёсць адрас — зямля, на якой ён нарадзіўся, у якой магілы яго дзядоў і прадзедаў, зямля, дзе ў яго ёсць і горад, і дом, і вуліца, — Беларусь, Менск, Трамвайны завулак, хоць і згарэў ён у страшэнным полымі, гэты мілы, ціхі Трамвайны... Згарэў — і застаўся. Як застаўся той хлопчык, хоць і зрабіўся зусім іншым чалавекам.

Так, той хлопчык — не я. Але разам з тым — я. Бо ўсё помню: і свой атрад, і ўсю акупацыю. І тую медсястру Аню помню. І горка мне ведаць, што цяжарнасць яе не ўратавала — пайшла ў лагер як жонка паліцая. А Лёшу яе адправілі ў штрафную роту, і ён загінуў недзе пад Варшавай. Можа, гэтага і хапіла б, каб змыць з сябе пляму паліцайства? Навошта было караць і Аню, і тое дзіцятка, якое жыло ў яе пад сэрцам?.. Навошта было саджаць у турму Мікалая Іванавіча Гусева — толькі за тое, што пісаў партрэты немцаў, каб пракарміць сям'ю... Жахаюся гэтаму, як жахаюся і таму, як у сорак другім, яшчэ да таго, як пайсці ў партызаны, сустрэў Мікалая Іванавіча і на яго прапанову зайсці, паесці ў іх, узяць што-небудзь для сястрычкі, гасцінца якога, адказаў з нянавісцю: "Еще сами свае нямецкія аб'едкі!" Ці не на гэтым падзеле жыцця толькі на дзве фарбы — чорную і белую, ці не на гэтай безаглядной нянавісці, ці не на гэтым фанатызме і трымалася імперыя, трымаўся сталінізм і ўся утопія "адзіна правільнага вучэння"?

Але я паважаю гэтага хлопчыка з медалём. Яго і ўсіх тых, хто ў гады нямецка-фашысцкай навалы ўзяў у рукі зброю, каб змагацца з ворагам. Тады гэта быў адзіна правільны выбар. І тое, што германскі фашызм быў разгромлены пад чырвоным сцягам, не мяняе і не скажае самой сутнасці нашай вялікай і цяжкой Перамогі. Бо яна паслужыла падмуркам будучыні, у тым ліку і будучыні нашай Бацькаўшчыны як незалежнай дзяржавы. Свята 3-га ліпеня — святое свята. Я віншую з гэтым святам гэтага хлопчыка-партызана, які глядзіць на нас з далечыні паўстагоддзя з надзеяй і верай. З надзеяй і верай у нешта зусім новае, чыстае і высокае.

# ЗА ТЫХ, КАГО ЦКУЮЦЬ...




*Пасля матэрыялу аб міжнародным кангрэсе пад назвай "Постталітарнае грамадства: асоба і нацыя", пра які пісала газета, паступілі просьбы больш падрабязна расказаць аб ПЭН-цэнтры, які праводзіў гэты кангрэс. Мы друкуем інтэрв'ю з намеснікам прэзідэнта беларускага ПЭН-цэнтра пісьменнікам Карласам ШЭРМАНАМ.*

**Я.Ф.:** Сп.Карлас, раскажыце, калі ласка, аб тым, што зроблена Беларускім ПЭН-цэнтрам пасля яго стварэння і прыняцця ў члены Міжнароднага ПЭН-клуба на 55-м кангрэсе чатыры гады назад на востраве Мадэйра.

**К.Ш.:** Зроблена шмат. Але мы рабілі сваю справу нягучна, без рэкламы. Вы ж ведаеце, што ў нашых творчых саюзах (калі сказаць жартам) бывае, муха праляціць, і адразу ў газеце Вы зможаце прачытаць: "Праляцела муха". Тут было наадварот. Памятаеце, у тыя часы, чатыры гады назад, адбыліся падзеі, звязаныя з Літвою, — падзеі крывавыя. Мы збіралі людзей, выказвалі падтрымку дэмакратычным сілам, пісалі лісты, звароты і г.д. Далей была сітуацыя, калі вынеслі смяротны прысуд амерыканскаму пісьменніку індускага паходжання Салману Рушдзі за кнігу "Сатанінскія вершы". Рэлігійнае кіраўніцтва, якое адначасна з'яўляецца кіраўніцтвам Ірана, вынесла смяротны прысуд "з прычыны блюзнерства", як яны казалі. Але гэта не тая прычына, па якой трэба выносіць смяротны прысуд. І мы, як члены міжнароднага ПЭН-клуба, удзельнічалі ў кампаніі абароны правоў Салмана Рушдзі. Збіралі подпісы ў Беларусі ў розных рэлігійных канфесіях, грамадскіх установах — бо забівалі людзей за кнігі і ў нас. І мы не хочам, каб гэта паўтаралася.

Трэба падкрэсліць, што асноўнай функцыяй Беларускага ПЭН-цэнтра на падставе хартыі Міжнароднага ПЭН-клуба і статута з'яўляецца перш за ўсё абарона пісьменніка і журналіста, калі яго пераследуюць. Дзеля гэтага і працаваў над стварэннем падобнай арганізацыі Джон Галсуорсі ў 1921 годзе. І другая функцыя ПЭН-клуба — міжнароднае гуманітарнае супрацоўніцтва. А гэта перш за ўсё абарона правоў чалавека, звязаная з нашай прафесіяй, абарона свабоды слова, веравызнання, друку і г.д. У Лондане, у Міжнародным ПЭН-клубе ёсць шэраг камітэтаў, сярод якіх камітэт "Пісьменнікі ў зняволенні". Калісьці ён быў створаны, каб вызваляць пісьменнікаў, якія трапілі ў турму за свае творы, цяпер жа абараняе і пісьменнікаў, і журналістаў ва ўсіх кутках свету. Усяго нацыянальных ПЭН-цэнтраў, такіх, як беларускі, у свеце 120. А спіс людзей, якіх пераследуюць, агромністы, так што працы хапае. У год выпадае каля 500 здарэнняў: забойствы, турма, цкаванне і г.д. Выходзіць спецыяльны бюлетэнь з дакладнымі звесткамі, які нам прысылаюць. Нацыянальныя ПЭН-цэнтры прымаюць у пачэсныя члены ПЭН-цэнтра таго, каго цкуюць за гуманістычную дзейнасць і творы, і засяроджваюцца на тым, каб абараняць гэтага чалавека. У нас, дзякаваць Богу, пакуль не прыйшлося рабіць гэта. Але мы ўдзельнічалі ў міжнародных акцыях, калі нашы майстры слова адпраўлялі лісты, свае пратэсты, далучаючыся да дэмакратычнага руху ў свеце.

Быў таксама шэраг праблем, звязаных з Югаславіяй. На жаль, мы не змаглі сабрацца разам з пісьменнікамі Югаславіі і ўсіх краінаў, якія ў яе ўваходзяць, каб абмеркаваць спосабы выхаду з трагічнай сітуацыі. Важна, каб пісьменнікі гэтых краінаў выступілі разам з намі супраць гэтай вайны. Інтэлігенцыя, інтэлектуалы павінны паказаць народу ўзор паводзін і тое, як мы можам будаваць мір. Дарэчы, у міжнародным ПЭН-клубе ёсць камітэт "За мір", камітэт па мастацкім перакладзе, дзе выпрацавана хартыя па пытаннях мовы нацыянальных меншасцяў.

У камітэт "Пісьменнікі ў зняволенні" ўваходзіць шаноўны Рыгор Барадулін, прэзідэнт нашага ПЭН-цэнтра.

Сярод нашых спраў была задума — даць слова пісьменніку, каб ён разважаў і аб літаратуры, і аб мастацтве і жыцці, адказаў бы на пытанні, як калісьці ў Астанкіне. Мы назвалі гэты цыкл "Як на споведзі". Першы творчы вечар правёў Васіль Быкаў ў Палацы чыгуначнікаў. Было гэта дужа цікава. Была задума запрасіць на такую сустрэчу Алеся Адамовіча, аднаго з заснавальнікаў ПЭН-цэнтра, але, на жаль, мы не паспелі гэта зрабіць. І нездарма апошні кангрэс прайшоў як бы пад знакам Адамовіча, і створаны пры ПЭН-цэнтры фонд дапамогі пісьменнікам, якія пераследуюцца, атрымаў яго імя.

**Я.Ф.:** А на якія сродкі існуе ПЭН-цэнтр?

**К.Ш.:** ПЭН-цэнтр няўрадавая арганізацыя. Яна не мае ніякіх датацый, і мы не маем права займацца камерцыяй. Нашы даходы — толькі спонсарскія, толькі добраахвотныя, сяброўскія складкі.

**Я.Ф.:** Што Вас турбуе зараз больш за ўсё?

**К.Ш.:** Стан грамадства, стан інфармацыйнай прасторы, суды супраць пісьменнікаў і журналістаў, узнікненне фашысцкіх плыняў і многае іншае. Мы адчуваем пагрозу культуры для беларушчыны. Культура амаль не фінансуецца, дзяржава не мае на яе грошай... Праўда, мы яшчэ і самі не ўмеем як след працаваць у новых умовах, не ўмеем займацца самафінансаваннем і адначасова рабіць добрую справу развіцця культуры. Мы ж выхаванцы іншай сістэмы. Мы не вучыліся нават ацэньваць сітуацыю ў грамадстве... Таму мы вырашылі склікаць міжнародны кангрэс, сабраць сяброў з іншых краін, з далёкага і блізкага замежжа, каб параіцца. Падумаць, як жыць далей.

**Я.Ф.:** І на кангрэсе былі прадстаўнікі розных краін — з Англіі, ЗША, Германіі, Чэхіі і г.д. Кангрэс прайшоў цікава, атрымаў добры розгалас.

**К.Ш.:** Мы за вельмі кароткі тэрмін правялі падрыхтоўку кангрэса. Амаль за тры месяцы, пры тым, што ў штаце ўсяго тры чалавекі. У бліжэйшы час выйдуць у свет працы кангрэса, спадзяемся, што праз 3 — 4 месяцы выпусцім гэтую кніжку на англійскай мове.

**Я.Ф.:** "Культура" ўжо пісала аб высокім узроўні кангрэса. А чаму кангрэс прайшоў у "Іслачы", Доме творчасці пісьменнікаў? Калі б ён адбыўся ў Менску, у ім прыняло б удзел больш шырокае кола дзеячаў культуры, пісьменнікаў і журналістаў.

**К.Ш.:** Хаця некаторыя расцэньваюць "Іслач" як уцёкі ад магчымых перашкод фашыстоўскіх арганізацый, мы проста стварылі зручныя ўмовы працы для нашых сяброў, каб яны маглі працаваць не толькі ў час паседжанняў, але і ў перапынках, увечары, падчас наладжвання кантактаў, абмеркавання вострых пытанняў.

**Я.Ф.:** Якія Вашы далейшыя крокі?

**К.Ш.:** Мы зараз фундуем сумесна з Мас-медыя-цэнтрам групу юрыдычнай службы, якая будзе дапамагаць пісьменнікам і журналістам у выпадку пераследаванняў. Пісьменнік — перш за ўсё істота эмацыянальная. Ён не мае юрыдычнага вопыту, выказваецца часам занадта рэзка, і гэта можа яму пашкодзіць. Мы хочам аказваць яму кваліфікаваную юрыдычную дапамогу. Мы падрыхтавалі спецыяльны праект даследавання, які мае назву "Сістэмная абарона пісьменніка-журналіста". Калі мы знойдзем фінансаванне гэтай навуковай праграмы (а яна патрабуе каля паўтара года), гэта дасць Беларусі абгрунтаваную, дакладную праграму, якая дапаможа яе дэмакратызацыі.

**Я.Ф.:** А як Беларускі ПЭН-цэнтр удзельнічае ў палітычным жыцці рэспублікі?

**К.Ш.:** ПЭН-цэнтр не ўмешваецца ў дзяржаўную палітыку. Але мы захоўваем за сабой права абнародаваць свой пункт гледжання на тыя ці іншыя падзеі, на парушэнні правоў чалавека. Права на крытыку неабходна як паветра. Гэта неад'емнае права чалавека, і мы будзем яго абараняць.

**Я.Ф.:** Мне здаецца, што варта яшчэ раз нагадаць нашым чытачам, што такое ПЭН-цэнтр.

**К.Ш.:** "ПЭН" — гэта Паэзія, Эсэістыка, Навелістыка (за мяжой навелістыка — гэта проза). Ды і ўвогуле ангельскае "PEN" гэта пяро, звычайнае пяро, якім пішуць вершы і прозу. ПЭН-клуб як бы аб'ядноўвае літаратараў усіх жанраў, усіх краін. Як запісана ў хартыі ПЭН-клуба: "Літаратура — з'ява нацыянальная па паходжанні, але яна не ведае дзяржаўных межаў і павінна заставацца сродкам зносін паміж народамі, нягледзячы на праблемы нацыянальнага і міжнароднага характару".

**Я.Ф.:** Дзякуй за размову.

Інтэрв'ю браў
**Ягор ФЯДЗЮШЫН.**

# БЕЗ СВАЙГО ДУХА МОВА ТОЛЬКІ ДЛЯ ВУХА

*Сярод шэрагу замежных беларускіх выданняў, што дасылаюць нашай рэдакцыі іхнія выдаўцы, ёсць і бюлетэнь Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы "Царкоўны пасланец". У апошнім яго нумары, пазначаным траўнем гэтага года, нашу ўвагу прыцягнула досыць цікавая нататка, якую мы змяшчаем сёння на сваіх старонках.*

*Матэрыял друкуецца на мове арыгінала.*

... Другое выданьне, што да нас дайшло — гэта "Беларускі Праваслаўны Калянд ар" на 1994-ы год, што таксама зьявілася дзякуючы працы й коштам, як ужо ўспомнена Праваслаўных Брацтваў у Беларусі.

У прадмове да каляндара кажацца, што ў выданьні адбіваюцца братчыцкія мэты "лучыць у сваёй дзейнасьці беларускую нацыянальную своеасаблівасьць і дабрадатную ды жыцьцятворчую праўду Праваслаўнай Веры".

Нажаль, нашае сваясаблівасьці ў каляндарнай частцы, добра з тэхнічнага боку надрукаванае кніжкі на звыш 100 бачынаў, апрача мовы, цяжка заўважыць.

Ашаломлівае ў ёй бо колькасьць расейскіх краёвых, мясцовых і нат засьценкавых сьвятых, за якімі выдаецца, што іншых хрысьціянскіх дагоднікаў Богу наагул нідзе й ніколі ня было.

Успомненыя гэнам князі й княжны, вялікія й звычайныя, царэвічы, Маскоўскія мітрапаліты й патрыярхі, праватнікі, дагоднікі, пустэльнікі й цярпеньнікі, паасобна ды згуртаваныя ў зборы (саборы) паводле земляў, ці местаў, а таксама пазьбіраныя з найдаўнейшых часоў, аж да нядаўняе пары.

Пададзеныя на дадатак і дні імянінаў Патрыярха Маскоўскага й усяе Русі, ды ягонае інтранізацыі.

А вось Сабору Беларускіх Сьвятых, відаць, як меншым братом, прысьвечаная 3-я нядзеля пасьля Сёмухі, у другой чарзе за ўсімі сьвятымі зямлі Рускай (дасюль пісалася Расійскай), прычыну сьвяткаваньня якіх у Беларусі можна вытлумачыць няйнакш, як адно палітычнымі меркаваньнямі.

Гэткім чынам абяцаны адбітак беларускіх сваясаблівасьцяў, за намогай прышчапіць вернасьць да Расеі, у першай частцы каляндара зглядзець цяжка й таму даводзіцца спытацца, дзе гэттака сувязь з успомненай разам праўдай Праваслаўнае Веры?

Нельга абыйсьці моўчкі таксама й беларускае мовы, бо складальнікі каляндара карыстаюцца ёю ў прытарнаванай саўмінаўскай рэформай на прыладу этнацыду форме й з паслухмянасьці якой, за выйняткам Васіля, Мікалая, Піліпа й Кірылы, ад пачатку да канца падаюць імёны ў гэткім родным напісаньні, як Алексій, Георгій, Данііл, Іаан, Іосіф, Юльянія, Лідзія, Маісей, Яўгенія й г.д.

Зь нястачы месца абыйдзем гэтта частку каляндара, дзе надрукаваны кароткі катэхіз і пяройдзем на коратка да разьдзелу прысьвечанага Беларускім Праваслаўным Сьвятыням.

Пачнем із успаміну, што ў каляндарнай частцы кажацца 13-га лютага адзначаць памяць "Сабору новамучанікаў і іспаведнікаў Расійскіх: свц. Ціхана (1925), свмч. Уладзіміра (1918), свмч. Веніяміна... прмч.вял.кн. Елізаветы і інікіні Варвары (1918)", а вось дня згаду беларускіх новамучанікаў нідзе не паказана, бо Сынод Экзархату Маскоўскае Патрыярхіі ў Беларусі дасюль не паклапаціўся, ані іх наагул вызнаць, ані вызначыць калі ўшанаваць.

Адзіным выявам афіцыйнае ўвагі да гэтых цярпеньнікаў усё яшчэ застаецца зьдзеклівая й зусім нядаўняя рэгабілітацыя некаторых зь іх той самай уладай, што бязь віны зрабіла ім сьмяротны прысуд ды яго выканала.

Затое Сынод Экзархату летась сьпешна, як гэта паказана ў каляндары, прылічыў да ліку Беларускіх Сьвятых магілёўскага архіяпіскапа Георгія Каніскага (1717 — 1795), што, нельга запярэчыць, ачольваў япархію ў цяжкі час, але ніякае шкоды сабе, апрача спалоху, не дазнаў, а наадварот, за заслугі перад Расейскай імпэрыяй быў шчодра ўзнагароджаны й скончыў жыцьцё ў выгадзе.

З гэтага відаць, што крытэрыям на сьвятасьць у Экзархаце Маскоўскае Патрыярхіі ў Беларусі ёсьць хутчэй асягненьні кандыдата ў пашырэньні й умацаваньні Расейскае імпэрыі, як ахвярнасьць у станаўленьні Беларускага Праваслаўя, ці Праваслаўя наагул.

Таму й надзеі нашых пабожных, а разам і патрыятычна настроеных людзей, супрацоўніцтвам з Экзархатам, гэны Экзархат беларусізаваць, або й абярнуць у нацыянальную Беларускую Праваслаўную Царкву, застануцца дарэмнымі.

Не абыйдзецца бо, каб падстаўляючы пад чужую страху свае сьцены, гэтая страха ня прыціснула таго, хто яе зачэпіць.

Дык пакуль Беларускія Праваслаўныя Брацтвы ў іхняй дзейнасьці й выданьнях не паставяць сабе за галоўную мэту ўзнаўленьне аўтакефаліі Беларускае Праваслаўнае Царквы ды ўстанаўленьне Беларускага Патрыярхату, датуль выдавецтва часапісаў і каляндароў на беларускай мове застанецца разрыўкай для наіўных, на якую Маскоўскі Экзархат, бязь небясьпекі сабе, можа з ахвотай дазволіць.

Бо без свайго духа й мова толькі для вуха, а не на нашую справу.

## НАЧАЛЬНІКІ

Чаго скардзіцца на' лёс. Ён лёс.

Да прыкладу, кватэрны.

Уяві, шаноўны. Ты — начальнік дзяржаўнага маштабу. Быць тваёй кватэры ў такім разе — на Пуліхава, на Машэрава, на Маркса, на Кульман, на Дразда.

Ну, а калі не дарос ты да вышэйшага ўзроўню. Рылам не выйшаў. Ці яшчэ што. Адным словам, сярэднерангавы начальнік. То жывеш ты, вядома, — на Чарвякова, на Маўра, на Сурганава.

Калі ж зусім твой ранг дробны. Начальнічак ты — "не пан, а падпанак, у якога лоб нізкі, а нос слізкі". "Свеціць" тады табе толькі Уручча-1, 2, 3, 4, 5 ..., Малінаўка-1, 2, 3, 4, 5 ..., Захад-1, 2, 3, 4, 5 ... Але. Вялі-і-кая кватэра. Па якой на ровары катацца можна. Але. У мураваным доме. На сонечным баку. На трэцім паверсе.

Давялося працаваць у "апараце" начальніка? Сакратаром-рэферэнтам, машыністкай, шафёрам? Шчасліўчык, "баловень судьбы"! Кватэру атрымаеш таксама на Шпалернай, на Танкавай, на Машэрава... Праўда, на першым ці дзевятым паверсе. З вокнамі на поўнач. З цешчыным кутком. Але тое — справа дзесятая, згадзіся. Галоўнае, усім знаёмым ты — гэтак мімаходзь — казаць будзеш: "У доме насупраць Шушкевіч жыве. А ў доме злева — старшыня Дзяржкамкамкам...". І вада ў цябе з краніка цурчэцьме артэзіянская, а не з хлоркай. І да працы табе дабірацца — не аўтобусам-экспрэсам за кошт двайны, а пешкі можна — хвілін пяць займе.

Начальнік. Гэта ўмоўная, вядома, назва. Ён — былы камуністычны партакратчык. Ён — сённяшні саўмінавец. Ён — "прыкормлены" ўладамі. Акадэмік. Сябра творчага саюза. "Выдвіжэнец" з рабочай арыстакратыі.

А раптам ты проста... просты чалавек. Не выбіцца табе, даражэнькі, у такім разе ні з Шабаноў, ні з Чыжоўкі, ні з Малінаўкі.

У роўнай ступені патрэбна грамадству праца начальнікаў (кіраўнікоў), настаўнікаў, рабочых, бібліятэкараў, дворнікаў, вайскоўцаў. Сацыяльна — яны роўныя.

Значыць, у прэстыжных гарадскіх раёнах, у прэстыжных дамах павінны быць роўна прадстаўлены — начальнікі, настаўнікі, рабочыя...

Значыць, колькасць начальнікаў, што лашчаць бокі на Маркса, прыкладна роўная колькасці начальнікаў, што жывуць у Шабанах?

Табе смешна. А мне плакаць хочацца.

## ВОЛЬНЫ

Ты — вольны? Скажы гэта каму іншаму. Не мне.

Не-е-е, я не класічнае "Жыць у грамадстве і быць свабодным ад..." на ўвазе маю. Ты ўслухайся проста — "жыць", "быць". Горда гучыць, здаецца. Ды як не вольны жыць і быць можа? Існуе ён. Іс-ну-е!

Карацей, сафістыка.

Але й таго мала. Крывадушша тут замаскаванае ў сэнсе. Што больш страшна. Чаму? Таму што як бы выбар табе дае. Надзею нават. Хочаш быць вольным? Жыві адзін. Не ў грамадстве. Без грамадства.

Ды дзе? Дзе ты бачыў грамадства, якое самахоць ад-пус-ці-ла б аднаго асобна ўзятага чалавека на волю? Няма такіх прэцэдэнтаў.

Спрабавалі вырвацца? было. Дыяген той жа ад грамадства ў бочцы хаваўся. А вось ці схаваўся? Не. Слабая абарона — бочка.

Хоць хлушу. Быў адзін. Вырваўся. Той. Імя якога марна не ўспамінаецца. Вырваўся. І іншых пацягнуў. Амаль два тысячагоддзі цягне. Без выніку.

Найжахлівае спараджэнне грамадства — дзяржава.

Вось. Дзе. Сабака. Зарыты.

У. Справе. Разгляду. Імператыва. Волі.

Дзяржава і воля — рэчы несумяшчальныя. У дзяржаве — парадак. У дзяржаве — дысцыпліна. І трымаюцца яны на пачвары страху.

Страх ва ўсіх шчылінах. Страх у сэрцах. Страх. Які душыць волю ў зародку.

Успомні. Успомні адно. Страх ад услых вымаўленага твайго прозвішча.

— Герасімаў!

І ты міжволі ўздрыгваеш. Унутрана. Бо чуецца табе нешта накшталт:

— Хальт! Стой! Крок улева, крок управа..!

І ты ліхаманкава пачынаеш перабіраць у памяці. А мо і сапраўды ў чым вінаваты?

Так і баішся.

У садку. Што выхавацелька ў кут паставіць.

У школе. Што да дошкі выклічуць.

У інстытуце. Што ў дэканат пацягнуць.

У арміі. Што нарад схлапочаш.

На працы. Што скароцяць.

Пачуў прозвішча — галаву ў плечы.

А ты кажаш — вольны. Не, браце, ярмо гэта, а не воля.

І не жыццё тут вінаватае. Маўляў, "жил дрожал, и умирал дрожал". А тыя. Хто жыццё нашае да адзінага парадку звесці хочуць. Усё роўна якога. Новага ці старога.

## АЎТОБУСЫ

Бягуць па дарогах аўтобусы.

Бяжыць па шляхах лёсу чалавечае жыццё.

Кожны паасобку. Але прыходзіць час. І яны перакрыжоўваюцца.

Аўтобусы бываюць розныя.

Жыццё бывае績 рознае.

Перакрыжаванні — таксама розныя.

Гэты аповяд пра аўтобусы. Што імчаць на суседку Польшчу. Камерцыйныя. Гандлёвыя.

У гэтых аўтобусах вы пачуеце беларускую мову.

Не з вуснаў пісьменніка. Не з вуснаў народнафронтаўца. З вуснаў гандляра.

Так лягчэй рэкламаваць тавар. Так хутчэй зразумеюць пакупнікі — "паны і пані". Роднага слова тут — мо ўпершыню за ўсё жыццё — не саромеюцца. Яно жывое. Бо неабходна для працы.

І скажа яшчэ беларуска, продкі якой ці не тысячу гадоў жылі пад Лагойскам: "Мы, рускія..." Але ўжо ўзарвецца звычайны шафёр звычайнага камерцыйнага аўтобуса: "Ды якія рускія — беларусы мы!"

У гэтых аўтобусах.

Сустрэліся.

Усе пласты і праслойкі грамадства.

Былая шлюха. І будучая прастытутка. "Афганец". І ўцякач ад чарговай павесткі з ваенкамату.




Інжынер. Студэнт. Бібліятэкар. Настаўнік. Рабочы. Беспрацоўны.

Жанчыны — пераважная большасць. Мужчыны — меншасць.

Усіх узростаў.

Ад школяра старэйшых класаў да навaспечанага пенсіянера.

У гэтых аўтобусах.

Сутыкаюцца.

Пячорнае хамства. І шляхетная выкшталцонасць. Адукаванасць кандыдацкай ступені. І элементарны дэбілізм.

Нехта едзе першы раз і здзіўленымі перапуджанымі вачыма глядзіць наўкол. Быццам баючыся за бліжэйшым рогам варшаўскай вуліцы твар у твар стрэць жывую пачвару капіталізму. Для некага — гэта ўжо асноўная праца і крыніца існавання.

Адзін — перыядычна бярэ "адгулы за прагулы", выкарыстоўвае водпуск, каб хоць неяк залапіць дзіркі ў сямейным бюджэце. Другому лішнія грошы патрэбны, каб. Проста. Адчуць. Смак. Жыцця.

Вы згодныя?

Выстойваць знясільваючыя чэргі дзеля атрымання замежнага пашпарту. Дрыжэць на мяжы з-за прыхаваных пары блокаў цыгарэтаў альбо бутэлькі "Раялу". Аддана заглядваючы ў вочы мытніку.

Не спаць. Або спаць урыўкамі. Лічаныя гадзіны. У тым жа аўтобусе. На працягу некалькіх сутак. На мяжы. Чакаючы пераезду. І ў самой Польшчы. Бо гатэлі там дарагія вельмі.

Вы здольныя?

Ведаць назубок параўнаўчыя курсы даляра, злотага, рубля ды "зайчыка". Што мяняюцца ледзь не кожны дзень.

Аб'ездзіць у пошуках таннага тавару ўсе дамы гандлю і крамы Менску ды плойму бліжэйшых да яго гарадоў і мястэчак.

Дзень у дзень пад няспынным дажджом або пякельным сонцам упрошваць "паноў" "пакупіць" у цябе нешта. Нешта такое, на што сам дома ніколі не глянуў бы.

Вам хопіць мужнасці?

Адмовіцца "падпісаць акт праверкі" рэкецірам з менскай Чыжоўкі, якія праводзяць за мяжой "выязныя рэвізіі" даходаў сваіх землякоў. Нават калі мужчын у вашым аўтобусе — усяго нічога. Нават калі кіраўнік вашай "турыстычнай" групы і "кіроўца" аўтобусу ў змове з "рэвізорамі".

Адмовіцца і не аддаць мафіёзным смаркачам, што амаль ва ўнукі вам падыходзяць, заробатаныя потам і крывёй сто альбо дзвесце "тысёнцаў".

Вы знойдзеце сілы?

Адарваць ад зямлі. Сумку. Пашытую кітайцамі, відаць, на згубу лепшай палавіне чалавецтва. Сумку. У якую можна ўмясціць абсталяванне тройкі ваенных заводаў і колы ад БелАЗа ўпрыдачу.

Вы сцерпіце?

Затоеную крыўду. Ад таго. Што ўсведамляеце. Сваім бізнесам. Вы. Рамантуеце дарогі Польшчы. Адбудоўваеце гатэлі Польшчы. Узбагачаеце грамадзян Польшчы.

І міжволі праводзіце паралелі. Вось. Каб. Так. І ўсходняя суседка ўзнімала эканоміку Беларусі.

Згодныя? Здольныя? Хопіць? Знойдзеце? Сцерпіце?

Тады. Ваша месца ў камерцыйным аўтобусе. Аўтобусе. Дзе. Камедыя і трагедыя. Слёзы і смех. Радасць і боль.

Гэта — аўтобусы жыцця. Жыцця для адных. І выжывання для другіх...

## ХАБАР

Сваяк мой нагу зламаў. Ішоў неяк у галалёд дадому нападпітку дабрэнным. Паслізнуўся. І гатова — зламаў.

Гіпс у бальніцы наклалі. Дый выправілі. Не так ужо, каб страшны пералом аказаўся.

А вось лісток непрацаздольнасці — бюлетэнь так званы — павінен быў доктар выпісаць, што дахаты прыйшоў. Існавала тут толькі закавыка адна. Спрактыкаваны чытач здагадаўся, думаю. Напісалі ў больніцы, што ў стане "алкогольного опьянения" атрымаў траўму сваяк мой. У такім разе бюлетэнь мусіў не аплочвацца.

— Што рабіць? — задае сабе сакраментальнае пытанне сваяк. І, здаецца, выйсце знаходзіць.

Сядзяць яны, значыць, на пару з доктарам пасля агляду нагі беднай. Сваяк так задуменна і кажа. Быццам у прастору нейкую:

— Можа, пасядзім, адпачнём за чаркай?

— Не, — круціць галавою доктар. Таксама ў прастору звяртаючыся.

— Можа, грашыма? — зноў шукае падыход сваяк.

— Не, — зноўку адмаўляецца доктар.

— А з сабою... цешчынага каньячку? — не губляе надзеі сваяк.

— О! Гэта добрая рэч, — радасна падаецца наперад доктар і нават кракае, бы адчуваючы будучую асалоду.

Абодва, задаволеныя сабою, яны аддыхваюцца. Справа зроблена. Доўгачаканая даведка — без фіксавання адпаведнай "стадыі" з'яўляецца на свет.

Падчас наступных урачэбных візітаў яны ўжо пачуваліся сябрамі.

* * *

Хабар бяруць. Карумпаваныя высокапастаўленыя дзяржаўныя чыноўнікі. Хабар даюць. Багатыя грамадзяне з карумпаваным сумленнем. Там — вялікія грошы і адсутнасць вялікага сумлення.

Але хабар бяруць. Дробныя служкі ды спецыялісты. Паспартыстка ЖЭСа. Участковы ўрач. Стаматолаг. Дырэктар школы. Міліцыянт. Прадавец.

Але хабар даюць. Мая калега-бібліятэкар з мікраскапічным заробкам. Мой сваяк — інвалід па зроку. Мае землякі — "чарнобыльцы", якім цяжка ўладкавацца ў вялікім горадзе.

Дык што.

І ў іх няма сумлення?

Ці сумлення няма ў Сістэмы?

Ці сумлення няма на Зямлі?

Ці сумлення няма ў Сусвеце?

## РОК-МУЗЫКА

Змаганне ішло з пераменным поспехам. Рок-музыкі і рэчаіснасці.

Рэчаіснасць увасаблялася. У. Камітэце камсамолу. Прафсаюзе. Парткаме. КДБ. Міністэрстве культуры.

Але мярзотнасць апошніх нібы ў зародку прысутнічала менавіта ў субстанцыі — Камітэт камсамолу. Гэта. Мікра- і макрамір. Гэта. Фетыш і сцяг. Гэта. Найбольш поўнае, яскравае і тыповае. Увасабленне рэчаіснасці.

Рэчаіснасці Застою.

Таму. Кажу "Камітэт", маю на ўвазе...

Камітэт арганічна не пераносіў рок-музыку.

За доўгія валасы. І зацёртыя джынсы. З амерыканскімі лэйбамі.

Камітэт прыцягваў рок-музыку да адказу "за пропаганду буржуазного образа жизни".

Камітэт скрупулёзна падлічваў — да адзінкі — колькі ў рэпертуары рок-музыкі англамоўных, а колькі рускамоўных песень. Што. На свеце існуюць і беларускамоўныя. Камітэт проста не ўяўляў.

Рок-музыка не здаваўся.

Рок-музыка маляваў на замерзлым шкле тралейбуса пацыфісцкі знак — ☮

Рок-музыка бегаў басанож па сцэне і спяваў рэпертуар "АС/ДС".

Рок-музыка эвалюцыянаваў. І калі ён зайграў "Ён яшчэ вернецца" і "На станцыі Койданава", храміна Камітэту ўздрыгнула і рассыпалася.

Прыйшла перабудова. Прыйшла і адразу. Увайшла. Асобным тэрмінам у "Советский энциклопедический словарь".

А. Камітэт. Падрыгаў. Падрыгаў лапкамі ў агоніі. І... уваскрос. І... пачаў. "Змагацца" за беларускую культуру і песню.

* * *

Я пасябраваў з ім у інстытуце. Падчас "зорнага" паходу. Па Старадарожчыне. З самай моцнай на ўсёй Беларусі. Самагонкай. І гасціннымі вяскоўцамі. Якія пранікнёна рэагавалі на кожны нумар нашай канцэртнай праграмы.

Ён ведаў на памяць усе песні "Beatles". Ён засынаў толькі з уключаным на рок-хвалю "Радыё Монтэ-Карла" транзістарам ля вуха.

Ён — адзін з рок-музыкаў. Ён грае рок-музыку і зараз. Капіталаў не нажыў. За мяжу не з'ехаў. На пасаду не ўзбіўся.

На пасады ўзбіліся іншыя. Яго былыя аднакашнікі. Па інстытуце. Больш пранырлівыя. І прафесійна амаль няздатныя. Затое. З. Камітэтаўскай загартоўкай.

Сёння яны "падбіваюць" колькасць беларускамоўных і рускамоўных тэкстаў.

Дыялектыка жыцця.

## МАСТАК

Жыццё сваё ў кожнага. Багатае ці беднае. Пакручастае ці простае. На людзях ці самотнае.

Сваё жыццё і ў мастака. Майго сябра. Якое яно? Гэта як паглядзець. Якімі крытэрыямі ацэньваць.

Сёмае па ліку дзіцё ў звычайнай вясковай сям'і. На Аршаншчыне.

Усяго дзяцей нарадзілася дзесяць. Не ўсе выжылі. Ён — выжыў.

Мастацкая вучэльня ў Менску. Тры разы — з рэгістрацыяй —жанаты быў. Зараз адзін. Кажа, не ён вінаваты. Жонкі яго былыя на перадок слабыя былі. А ён вернасць найвышэйшай якасцю жаночай лічыць. Я яму веру.

У яго некалькі любімых афарызмаў. (Ён іх сам прыдумляе.)

Пра жанчын: "Без жанчын дрэнна, а з імі яшчэ горш".

Пра мастакоў: "Не мог ён Гугеля ад Гегеля адрозніць".

Пра Ракаў (яго сузор'е): "Гэта для вас мы назад паўзём — на самай справе наперад ідзём".

Ён беларус па паходжанні. І па духу. Але, як і ўсе "гнілыя" інтэлігенты, у перамогу беларушчыны то верыць, то не верыць. Таксама, як і з камуністамі. То лае іх, то хваліць — піва было таннае.

Ён шмат чытае. Чэхава, Дастаеўскага. Замежныя дэтэктывы.

Вядома ж, у яго барада і доўгія валасы. Зрэдку ён голіцца, і тады — з голым падбародкам — становіцца падобным на летувіса.

Свае карціны ён аддае за нішто. Знаёмым, сябрам, калегам па працы.

За часам застою мог уступіць у Саюз мастакоў. Грошай на каляровыя здымкі сваіх карцін — што патрабавалася — не мог наскрэбці ніяк. Дый прагнуў не вельмі. А зараз той Саюз і чорту лысаму без патрэбы.

Калі п'е, ён ніколі не закусвае. Ну, хіба трохі ўшчыкне нечага. Дзеля прыліку.

— Закусваюць, каб не п'янець. Навошта ж тады піць, — кажа.

Зразумела, яго лічаць дзіваком. Але і цягнуцца да яго. З ім — цікава. Хоць матам ён пасылае нават Шэфа ўстановы. Дзе "оформителем" працуе.

Мне падабаюцца яго карціны. Гэта карціны беларуса. І толькі беларус мог напісаць іх.

Восень. Зіма. Вясна. Лета.

Вялікае неба і вялікія дрэвы. Трывожнае неба і трывожныя дрэвы. Зялёнае неба і зялёныя дрэвы.

Такога неба і такіх дрэў. Я не бачыў. Ні ў кога.

# АЎГУСТ III (1696-1762)

## КАРОЛЬ ПОЛЬСКІ, ВЯЛІКІ КНЯЗЬ ЛІТОЎСКІ, КУРФЮРСТ САКСОНСКІ АД 1733 ГОДА.

*Наша краіна мела яшчэ аднаго валадара, які панаваў трыццаць гадоў. Гэта быў другі манарх з Саксонскай дынастыі, другі "Сас". Пры ім дзяржаўны лад Рэчы Паспалітай значна аслабеў. Рэч Паспалітая знаходзілася ў яшчэ большай залежнасці ад суседніх краін, асабліва ад Расіі, чым назіралася гэта на пачатку XVIII стагоддзя.*

### ГАДЫ МАЛАДОСЦІ І СТАЛАСЦІ НЯМЕЦКАГА ПРЫНЦА

Фрыдрых Аўгуст быў адзіным законным сынам свайго бацькі, караля польскага і вялікага князя літоўскага, курфюрста саксонскага Аўгуста Моцнага. Ён належаў да старажытнай нямецкай дынастыі Вэццінаў (вядомай з X стагоддзя), уладароў Саксоніі. Ад 1089 года Вэцціны былі маркграфамі Майсенскай маркі, створанай нямецкімі феадаламі на захопленых землях заходніх славян па рацэ Лабе (Эльбе). Ад 1247 года гэты саксонскі княжацкі род атрымоўвае ландграфства Цюрынгію. У 1485 годзе род падзяліўся на дзве лініі — эрнесцінскую і альберцінскую. Апошняя атрымала Майсен і большую частку Цюрынгіі. У 1547 годзе галава альберцінскай лініі атрымаў тытул курфюрста Саксоніі (г.зн. ён быў князем-выбаршчыкам у калегіі з сямі князёў, якая выбірала пажыццёва імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі).

Фрыдрых Аўгуст нарадзіўся ў сталіцы Саксоніі Дрэздэне 17 кастрычніка 1696 года. Маці яго, Хрысціяна Эбергардына (1671 —1727), была дачкой маркграфа Брандэнбургскага-Байройт (з малодшай лініі Гогенцолернаў), з дробнага княства на поўдні Нямеччыны. Бацька — Аўгуст Моцны (1670 — 1733) займаўся палітычнымі і вайсковымі справамі, атрымаў польскую карону, вольны час прысвячаў палюбоўным уцехам і зусім не займаўся сынам. Маці і бабка Ганна Соф'я (1647 — 1717), дачка дацкага караля, абедзве — лютэранкі, і Фрыдрыха выхоўвалі ў лютэранскай традыцыі. Маці не магла дараваць мужу, з якім фактычна разышлася, не толькі пастаянную здраду, але большае — тое, што ён стаўся каталікам, каб заняць каралеўскі пасад. Таму сама так ніколі і не стала каралевай польскай і вялікай княгіняй літоўскай. Маці маленькага прынца разлічвала, што яе сын здолее адстаяць пратэстанцкую (у большасці) Саксонію ад наступу "папістаў". Часам нават думала аб дзяржаўным пераўвароце, каб перадаць уладу сыну, адабраўшы саксонскі трон ад нялюбага мужа.

Бацька ж, наадварот, лічыў, што раней ці пазней сын будзе ягоным наступнікам і на польскім троне, таму намагаўся знайсці ў Рэчы Паспалітай прыхільнікаў саксонскай дынастыі, а значыць і сына. Больш таго — Аўгуст Моцны разлічваў атрымаць для сваёй дынастыі імператарскі трон. Дынастыя Габсбургаў вымірала ў мужчынскім родзе: у апошніх двух братоў Габсбургаў, Іосіфа і Карла VI, было толькі жаночае патомства. Аўгуст Моцны намагаўся ажаніць сына з адной з аўстрыйскіх эрцгерцагінь, якіх у Габсбургаў хапала.

Але для гэтага трэба было перавесці Фрыдрыха ў каталіцызм. Аўгуст II паабяцаў папе Кліменту XI, што ў знак удзячнасці за дапамогу ў вяртанні польскага трону, ён перахрысціць сына ў новую веру. У 1711 годзе ён забірае ад маці сына нібы для таго, каб у Яраслаўлі пазнаёміць юнага каралевіча з Пятром I. Адтуль адпраўляе яго ў падарожжа па еўрапейскіх краінах: у Нямеччыну, Францыю, Італію, у габсбургскія краіны —Чэхію, Аўстрыю, Венгрыю. Суправаджаў каралевіча інфлянцкі ваявода Ю.Кос, а ў Франкфурце-над-Майнам да прынца далучыліся святары-езуіты Коглер і Салерна. 27 лістапада 1712 года ў Балоньі Фрыдрых Аўгуст перайшоў у каталіцызм, а потым абвясціў пра гэта публічна ў Вене. Падарожжа працягвалася да 1714 года. Ад таго часу Фрыдрых Аўгуст знаходзіўся пад уплывам езуітаў; гэта, безумоўна, сапсавала яго адносіны з маці, і ён моцна перажываў.

20 жніўня 1719 года малады каралевіч ажаніўся ў Вене з эрцгерцагіняй Марыяй Ёзэфай (1699 — 1757), дачкой імператара Ёзэфа I. Яна мела на мужа вялікі ўплыў і фактычна замяніла сваім уздзеяннем ранейшы ўплыў ягонай роднай маці. Ад гэтага шлюбу было 14 дзяцей (на працягу 20 год), але трое памерлі ў дзяцінстве. Старэйшы сын, Фрыдрых Хрысціян (1722 — 1763), стаўся пасля смерці бацькі яго наступнікам у Саксоніі, але быў курфюрстам толькі два месяцы. Хоць і здольны дзяржаўны дзеяч, але вельмі хваравіты. Ад яго пайшла далейшая саксонская дынастыя, прадстаўнікі якой дагэтуль жывуць у Нямеччыне. Адну дачку Фрыдрых Аўгуст выдаў замуж за іспанскага караля Карла III, другую за курфюрста баварскага, трэцюю за Людовіка, дафіна Францыі (бацькі каралёў Людовіка XVI, Людовіка XVIII і Карла X). Па жаночай лініі ў Фрыдрыха Аўгуста цяпер шматлікае патомства ў каралеўскіх дамах Еўропы. Адзін з сыноў — Франц Ксаверы (1730 — 1806) — зрабіў добрае ўражанне на варшаўскае грамадства і хацеў нават дабіцца кароны. Другі сын — Карл (1733 — 1796) ажаніўся з польскай арыстакраткай Францішкай Красінскай. Ён здолеў увайсці ў фавор да царыцы Лізаветы Пятроўны і нават у 1758 — 1763 гадах заняць трон Курляндыі, але быў пазбаўлены такога ганаровага месца Кацярынай II.



Аўгуст Моцны ў Польшчу сына не вазіў, засцерагаючыся апазіцыі, якая магла зрабіць ягонага сына сваім правадыром (што, дарэчы, здаралася ў XVIII стагоддзі на еўрапейскіх дварах), але рыхтаваў яго да заняцця трона не толькі ў Дрэздэне, але і ў Варшаве. Фрыдрых Аўгуст прымаў удзел у пасяджэннях нешматлікага кабінета Аўгуста II у Дрэздэне, удзельнічаў у перамовах з дыпламатамі іншых краін.

Каб запэўніць каралеўскі і вялікакняскі пасад у Рэчы Паспалітай для сваёй дынастыі, Аўгуст II заключыў пагадненні з магнацкімі групоўкамі, абяцаючы Рэчы Паспалітай моцную падтрымку і саюз з багатай, эканамічна моцнай Саксоніяй. Збіраючыся захаваць цэласнасць Рэчы Паспалітай, групоўка князёў Чартарыскіх пайшла на такое пагадненне з Аўгустам Моцным, хоць фармальнага саюзу з Саксоніяй заключана не было. Гэтым забяспечвалася ў будучым абранне Фрыдрыха Аўгуста каралём польскім і вялікім князем літоўскім, рускім і жамойцкім. Адначасова групоўка мела на мэце правесці рэформы дзяржаўнага ладу, умацаваць цэнтральную ўладу ў дзяржаве, правесці эканамічныя рэформы.

Але і суседнія дзяржавы рыхтаваліся да магчымай смерці Аўгуста II, каб прадухіліць узмацненне Рэчы Паспалітай і захаваць у ёй паўанархічныя парадкі. У верасні — снежні 1732 года Расія, Аўстрыя і Прусія падпісалі трактат, паводле якога на польскі трон павінен быў быць абраны кандыдат, які б захаваў добрыя адносіны з суседнімі дзяржавамі. Выключалася кандыдатура Станіслава Ляшчынскага. На перыяд выбараў новага караля Расія, Аўстрыя і Прусія на межах Рэчы Паспалітай намерваліся выставіць адпаведную колькасць войскаў, каб на час патрэбы аб'яднаць свае сілы на працягу чатырох тыдняў. Дамовіліся і наконт кандыдатуры на трон — гэта быў партугальскі прынц Эмануіл (1697 — 1766), малодшы брат караля Жуана V (1689 — 1750), а жонка караля даводзілася сястрой германскаму імператару Карлу VI. Суседнія дзяржавы мелі кандыдата, у якім манархі не сумняваліся. Да таго ўсе тры дзяржавы не хацелі саюзу Саксоніі і Рэчы Паспалітай.

### АБРАННЕ АЎГУСТА КАРАЛЁМ

На пачатку 1733 года Аўгуст II Моцны і Чартарыскія рыхтавалі сойм, на якім хацелі правесці рэформы. Аднак у ноч на 1 лютага ў Варшаве памёр кароль, вялікі князь і курфюрст. Пачалося бескаралеўе. Фрыдрых Аўгуст II заняў трон у Саксоніі. А ў Рэчы Паспалітай моцная групоўка магнатаў і шляхты падтрымала кандыдатуру Станіслава Ляшчынскага. Партугальскі кароль не згадзіўся на кандыдатуру Эмануіла, а прапанаваў другога свайго брата — інфанта Антонія. Таму імператар Карл VI вырашыў падтрымаць больш рэальную кандыдатуру — саксонскага курфюрста Фрыдрыха Аўгуста, якога падтрымлівала іншая групоўка. Трэба было перш за ўсё дамовіцца з Расіяй.

У жніўні 1733 года Фрыдрых Аўгуст II дамовіўся з урадам імператрыцы Ганны Іванаўны. Ад імя Рэчы Паспалітай ён павінен быў адмовіцца ад прэтэнзій на Ліфляндыю, абяцаў, як курфюрст, саюз паміж Саксоніяй і Расіяй на 18 гадоў, прызнаваў за царыцай імператарскі тытул і запэўніваў, што пасля выбрання каралём зробіць усё магчымае, каб і Рэч Паспалітая прызнала гэты тытул. Ён абяцаў захаваць у Рэчы Паспалітай усе свабоды (па сутнасці анархічны лад). Фаварыту царыцы Ганны — Эрнэсту Ёгану Бірону — на словах збіраўся аддаць герцагства Курляндскае як васальную дзяржаву ў дачыненні да Рэчы Паспалітай. Мусіць, гэтае апошняе абяцанне пераважыла ўсе іншыя. Ганна Іванаўна падтрымала кандыдатуру саксонскага курфюрста. Аўстрыю ён таксама пераканаў. Карл VI быў апошнім мужчынскім прадстаўніком роду Габсбургаў. Спрэчка вялася за аўстрыйскую спадчыну пасля яго. Карл VI хацеў пакінуць усе свае краіны (Аўстрыю, Венгрыю, Чэхію, Аўстрыйскія Нідэрланды) дачцэ Марыі Тэрэзіі. Аднак Аўгуст Моцны раней прэтэндавааў на аўстрыйскую спадчыну ад імя сваёй нявесткі Марыі Ёзэфы, жонкі цяперашняга курфюрста, бо яна была дачкой старэйшага брата Карла VI —імператара Ёзэфа, які памёр у 1711 годзе. Яшчэ ў ліпені 1733 года саксонскі курфюрст даў абяцанне Аўстрыі падтрымаць правы Марыі Тэрэзіі на ўсю спадчыну імператара.

Але 12 верасня 1733 года 12 тысяч шляхты-выбаршчыкаў абралі Станіслава Ляшчынскага каралём польскім і вялікім князем літоўскім, спадзеючыся, што ён абароніць незалежнасць дзяржавы. Меншасць выбаршчыкаў пакінула сход выбарчага сойму. Гэтае выбранне і сталася зачэпкай для ўвядзення на тэрыторыю Рэчы Паспалітай расійскіх войскаў. Пачалася вайна за польскую спадчыну 1733 — 1735 гг. Прыхільнікамі Фрыдрыха Аўгуста былі польскія і ў значнай ступені беларуска-літоўскія магнаты і шляхта, залежная ад іх (Любамірскія, Радзівілы і Сапегі). Пераважалі Радзівілы і Сапегі. Яны ўлічвалі небяспеку з боку расійскіх войскаў для сваіх багатых маёнткаў і, да таго, знаходзіліся ў апазіцыі да польскіх магнатаў. Войска літоўскае было таксама за С.Ляшчынскага.

Расійскі ўрад у верасні 1733 года ўвёў свае войскі на тэрыторыю Рэчы Паспалітай. Ім супрацьстаялі малалікія часці кароннай арміі. Расійская армія генерал-аншэфа графа П.П.Ласі імклівым маршам падышла да Варшавы і заняла прадмесце сталіцы — Прагу. Туды пераехала тысяча прыхільнікаў саксонскага курфюрста (а хутчэй праціўнікі Станіслава Ляшчынскага). Яны абвясцілі канфедэрацыю. Галоўную ролю адыгрывалі кракаўскі ваявода князь Т.Любамірскі, навагрудскі ваявода князь М.Ф.Радзівіл, расійскі генерал-фельдмаршал Я.К.Сапега. 5 кастрычніка 1733 года гэтая меншасць выбаршчыкаў, у сваю чаргу, у вёсцы Камень, ля прадмесця Прага, абвясціла саксонскага курфюрста каралём пад імем Аўгуста III. У Еўропе Аўгуста III лічылі кандыдатам царыцы Ганны Іванаўны. Такая сітуацыя вельмі нагадвала абранне Станіслава Ляшчынскага каралём у 1704 годзе, але тады антыкароль не ўтрымаўся на троне.

Станіслаў Ляшчынскі мусіў адступіць у Гданьск, дзе дарэмна чакаў дапамогі ад Францыі. Дапамога прыйшла невялікая, ды і позна. Расійскія войскі займалі галоўныя пункты ў Польшчы. З захаду на тэрыторыю Польшчы ўступілі саксонскія войскі. Каб замацаваць сваё становішча, 17 студзеня 1734 года Аўгуст III разам з жонкай каранаваўся ў Кракаве.

На баку Станіслава Ляшчынскага ў 1734 годзе выступіла канфедэрацыя, якая арганізавалася ў Дзікове (цяпер частка горада Тарнабжэга) пад камандаваннем люблінскага ваяводы А.Тарлы. Яе праграмай была барацьба за незалежнасць краіны і дзяржаўнае рэфармаванне. Але гэтая канфедэрацыя не здолела адбіць наступ інтэрвентаў. Расійскія войскі пад камандаваннем генерал-фельдмаршала Б.К.Мініха аблажылі Гданьск, і ў ліпені 1744 года горад капітуляваў, а С.Ляшчынскі ўцёк у Прусію, потым эміграваў зноў у Францыю. Большасць польскіх магнатаў перайшла на бок Аўгуста III. І ўсё ж Аўгусту III прыйшлося змагацца з Дзікоўскай канфедэрацыяй.

Вайна за польскую спадчыну набыла агульнаеўрапейскі характар. Фармальна ў абарону Станіслава Ляшчынскага выступіла Францыя — выступіла супраць Расіі, Аўстрыі і Саксоніі. Французы нанеслі паражэнне аўстрыйскім войскам у Італіі. Вайна закончылася ў кастрычніку 1735 года падпісаннем прэлімінарнага дагавору. У лістападзе 1738 года быў падпісаны канчатковы Венскі трактат паміж Аўстрыяй і Францыяй, да якога ў 1739 годзе далучыліся Расія, Саксонія і Рэч Паспалітая. Францыя дамагласся аслаблення Аўстрыі. Каралём





польскім і вялікім князем літоўскім, рускім і жамойцкім прызналі Аўгуста III. Станіслаў Ляшчынскі захаваў пажыццёва тытул караля і вялікага князя і атрымаў (таксама пажыццёва) герцагствы Латарынгію і Бар (тамсама, дзе і Латарынгія). Расія ўзмацніла свой уплыў на Рэч Паспалітую і захавала яе слабы, паўанархічны дзяржаўны лад, карысны для далейшых мэтаў расійскай палітыкі.

## ПАНАВАННЕ АЎГУСТА III

Так ва ўмовах інтэрвенцыі пачалося панаванне навязанага Рэчы Паспалітай караля і вялікага князя. Але даволі хутка значная колькасць магнатаў і шляхты, з іх кансерватыўнымі поглядамі і жаданнем захаваць такое становішча, як было раней, не зважаючы на агульныя змены ў Еўропе ў XVIII стагоддзі, прымірылася з каралём і нават задаволілася тым, што федэратыўная дзяржава — Рэч Паспалітая (гэта значыць і Польшча, і Беларуска-Літоўскае гаспадарства) не рухалася наперад. У гэты час у шляхецкім асяроддзі была распаўсюджана прымаўка: "Пры каралі Сасе еш, пі і распускай пас". Шляхце падабаўся багаты каралеўскі стол: на абед у палацы падавалася не менш чым дваццаць страў. Ад гэтага пайшло крылатае выслоўе: "Я сёння еў, як кароль польскі". Шляхта, і асабліва магнаты, перанялі ў караля любоў да раскошы. Але да караля вялікай любові ў шляхты не было.

Пацыфікацыйны (міратворчы) сойм, які засядаў у чэрвені —ліпені 1736 года, урэшце скончыў грамадзянскую вайну. Падчас панавання Аўгуста III гэта быў адзіны сойм, праведзены да канца. Наступныя соймы зрываліся дзякуючы правілу аднагалосся (ліберум вэта). У асноўным інспіратарамі зрыву соймаў (ад 1738 да 1752 года) была "рэспубліканская апазіцыя" на чале з Патоцкімі; яны выступалі супраць караля, а потым і Чартарыскіх за захаванне так званых "рэспубліканскіх" вольнасцей без каралеўскай цэнтральнай улады. Да зрыву соймаў мелі дачыненне таксама расійскі і прускі пасланнікі. Але і ў 1754 — 1762 гг. соймы таксама зрываліся. Наогул пры Аўгусце III было сарвана 14 соймаў. Ніводнага закону за гэты перыяд не было прынята. Цэнтральная ўлада была вельмі аслаблена. Фактычна кіраўніцтва дзяржавай было дэцэнтралізавана, а ўлада ў паветах перайшла да соймікаў, якія вырашалі фінансава-падатковыя праблемы зыходзячы з мясцовых, павятовых задач і патрэбаў.

Сам Аўгуст III гэтай краіны не любіў і не ведаў. Ён так і не навучыўся гаварыць па-польску, ездзіў у Варшаву вельмі рэдка, і то пад прымусам абставін. Каб прымаць дзяржаўныя акты, трэба было знаходзіцца на тэрыторыі Рэчы Паспалітай. Аўгуст III прыязджаў з Саксоніі на некалькі дзён ці тыдняў у памежны горад Усхову, дзе адбываліся ягоныя нарады з сенатам Рэчы Паспалітай, і намагаўся хутчэй вярнуцца ў Дрэздэн. Прыязджаў таксама на соймы. Двойчы наведаў Горадню, дзе збіраліся соймы ў 1744 і 1752 гадах, але не столькі для ўдзелу ў соймах (дарэчы, сарваных), колькі дзеля паляванняў у Белавежскай пушчы. Аднак ліхалецце Сямігадовай вайны, калі прускія войскі займалі Саксонію, прымусіла Аўгуста III пераехаць у нейтральную Рэч Паспалітую.

Акрамя паляванняў у лясах Саксоніі, недалёка ад свайго замка Губертсбурга, Аўгуст III любіў страляць у сабак, якіх спецыяльна вабілі на двор ягонага замка, любіў выразаць фігуркі з паперы, ахвотна праводзіў час з прыдворнымі блазнамі. А ўвогуле гэта быў апатычны і недаступны чалавек, але вельмі давяраў сваім фаварытам, якіх праз некаторы час мяняў. Акрамя айцоў-езуітаў спачатку вялікі ўплыў на караля меў яго сябра ў маладых гадах Аляксандр Юзаф Сулкоўскі, граф, а потым і князь Свяшчэннай Рымскай імперыі, лоўчы надворны літоўскі і першы міністр саксонскага кабінета (1733 — 1738), ён жа генерал саксонскай пяхоты. Але ў лютым 1738 года Сулкоўскі патрапіў у няміласць караля і быў звольнены. Яго замяніў здольны і спрактыкаваны палітык — Генрых фон Бруль, які стаўся і ягоным міністрам у Польшчы. Каля Аўгуста III былі яго даўнейшыя прыхільнікі Я.Малахоўскі, Ліпскі, Я.Ф.Сапега, Я.К.Л.Браніцкі, Радзівілы, Вішнявецкія. У 1743 годзе на першае месца ў Рэчы Паспалітай выйшлі Чартарыскія, але ў 1752 годзе "першую скрыпку" зноў займеў Бруль і Е.Мнішэк (апошні прымірыў караля з Патоцкімі, якія былі ў апазіцыі).

З гэтага спісу трэба адзначыць Чартарыскіх, якія, карыстаючыся даверам караля, намагаліся правесці неабходныя рэформы ў Рэчы Паспалітай: заснаваць спадчынную манархію, абмежаваць магнацкую алігархію і скасаваць "ліберум вэта". Але падтрымкі караля і яго двара не было, таму гэтая спроба скончылася няўдачай. Увогуле ж Аўгуст III цікавіўся рэформамі толькі ў той ступені, каб з іх дапамогай забяспечыць трон у Рэчы Паспалітай каму-небудзь са сваіх сыноў.



У асноўным магнаты Рэчы Паспалітай у перыяд панавання Аўгуста III падзяліліся на дзве групоўкі, якія аспрэчвалі ўладу ў краіне паміж сабой. Караля падтрымлівалі Чартарыскія і іх шматлікія прыхільнікі, у тым ліку Радзівілы і Сапегі. Адзін з Чартарыскіх, Міхал, доўгі час быў падканцлерам (1752 — 1775). Ён меў вялікі ўплыў на падзеі ў Беларуска-Літоўскай дзяржаве. Арыентаваліся Чартарыскія на Расію, а з 50-х гадоў XVIII стагоддзя — і на Прусію.

Супраць караля і "прыдворнай партыі" Чартарыскіх выступала групоўка на чале з Патоцкімі ("рэспубліканцы", або "гетманская партыя"). Яны былі супраць абсалютызму, прыхільнікамі "залатой вольнасці" і захавання "ліберум вэта". Патоцкія атрымлівалі грашовыя сродкі ад урадаў Францыі і Расіі. У 40-х гадах сябравалі з Прусіяй, а ў 50-х — сталі яе ворагамі. Менавіта апазіцыя і ўдарэмніла спробы рэформаў на соймах 1746 і 1748 гадоў, сарваўшы іх.

## ЗНЕШНЯЯ ПАЛІТЫКА АЎГУСТА III

У знешняй палітыцы Аўгуст III арыентаваўся на Расію, бо, дзякуючы ёй, стаўся каралём. Быў саюзнікам Расіі ўвесь час свайго панавання ў Рэчы Паспалітай і Саксоніі. Таму, маючы ў Пецярбургу падтрымку, Аўгуст III дазваляў сабе часам выступаць супраць Прусіі і Аўстрыі, спадзеючыся атрымаць частку аўстрыйскіх зямель пасля смерці апошняга Габсбурга — імператара Карла VI. Але ў гэтым накірунку актыўнай была Саксонія, якая ўдзельнічала ў еўрапейскіх войнах. Рэч Паспалітая захоўвала нейтралітэт. Але палітыка Аўгуста III ставіла Рэч Паспалітую ў рызыкоўнае становішча. Праз яе тэрыторыю на захад прыходзілі расійскія войскі, побач узмацнялася Прусія.

Расія не лічылася з суверэнітэтам Рэчы Паспалітай. Калі ёй было патрэбна, яна ўводзіла войскі на тэрыторыю Беларусі. Так, у 1735 годзе па загаду ўрада Ганны Іванаўны для гвалтоўнага захопу расійскіх стараабрадцаў, якія пасяліліся ў сваім замежным цэнтры — Ветцы і яе наваколлі, сюды праз дзяржаўную мяжу было накіравана 5 палкоў, ім было даручана "ачысціць Ветку" і суседнія слабады. Дамы стараабрадцаў і манастырскія пабудовы былі спаленыя. У Расію вывезена больш як 13 тысяч чалавек. Такая ж акцыя была праведзена пазней (у 1764 годзе), калі генерал Маслаў з двума палкамі вывеў у Расію 20 тысяч чалавек. Рэйды расійскіх войскаў на тэрыторыю іншай дзяржавы атрымалі назву "веткаўскія выгонкі". Расія таксама падтрымала паўстанне ў Крычаўскім старостве ў канцы 1743 — пачатку 1744 года, каб мець зачэпку для ўмяшання, калі гэта спатрэбіцца. Па загадзе расійскай улады камандзір расійскага пагранічнага фарпоста (заставы) падтрымліваў сувязь з Васілём Вашчылам.

Падчас вайны за аўстрыйскую спадчыну паміж еўрапейскімі краінамі (1740 — 1748) Саксонія прыняла ўдзел у вайне на баку Прусіі супраць Аўстрыі, а пасля перайшла на бок Аўстрыі. Аўгаст III хацеў атрымаць ад Аўстрыі "калідор" праз Сілезію ад Саксоніі да Польшчы. Прускі кароль Фрыдрых II у 1745 годзе разбіў аўстра-саксонскую армію. Быў заняты Дрэздэн. Згодна падпісанаму міру Сілезія адышла ад Аўстрыі да Прусіі (была занята яшчэ ў 1742 годзе), а Саксонія не атрымала нічога. Тэрыторыя Польшчы цяпер была абкружана паўколам прускімі валоданнямі на захадзе і поўначы.

Праўда, Аўгуст III пасля падпісання мірнага трактата з Прусіяй (25 снежня 1745 года ў Дрэздэне) падпісаў на пяць гадоў саюзны дагавор Саксоніі з Францыяй, атрымоўваючы за гэта субсідыі ад французскага караля Людовіка XV. А калі скончыўся гэты дагавор, то ў 1751 годзе падпісаў такі ж дагавор з Англіяй, ахвяруючы ёй 6000 саксонскіх салдат за (цяпер ужо) англійскія субсідыі. Такая палітыка хістання паміж Англіяй і Францыяй прывяла ўрэшце да таго, што падчас Сямігадовай вайны (1756 — 1763 гадоў) прускі кароль Фрыдрых II, супраць якога выступіла Саксонія разам з Аўстрыяй, Расіяй і Францыяй, нанёс паражэнне саксонскай арміі (капітулявала 15 кастрычніка 1756 года каля Пірны). Аўгуст III мусіў ратавацца ў Варшаве, а пруская армія з невялікім перапынкам рабавала Саксонію ажно да вясны 1763 года.

І хаця Рэч Паспалітая заставалася нейтральнай і падчас Сямігадовай вайны, тэрыторыя яе выкарыстоўвалася абодвума бакамі для сваіх мэтаў. Праз яе праходзілі туды і сюды расійскія, прускія, а часам і аўстрыйскія войскі. Дзяржава не ўдзельнічала ў вайне, аднак насельніцтва яе шмат цярпела ад іншаземных салдат. Расія авалодала камунікацыямі, карысталася прадуктамі харчавання і зімовымі кватэрамі на тэрыторыі Беларусі і Польшчы. Пры гэтым расійскія генералы не лічыліся з насельніцтвам, рабавалі яго пад выглядам дапамогі расійскай арміі. У сваю чаргу прускі кароль Фрыдрых II у 1760 годзе накіраваў свае войскі ў Польшчу, у Познаньскае ваяводства, і абвясціў маніфест, у якім заявіў, што будзе карыстацца ўсімі прывілеямі, якія мелі ў гэтай краіне расійскія войскі.

## АПОШНІЯ ГАДЫ ЖЫЦЦЯ

Аўгуст III у канцы свайго жыцця займаўся больш справамі сваёй сям'і. Павыдаваўшы дачок замуж за прынцаў каралеўскіх ці княскіх фамілій, ён намагаўся ўладкаваць сыноў. Старэйшы сын Фрыдрых Хрысціян, хваравіты чалавек, паводле законаў саксонскага дому прызначаўся да заняцця трона ў Дрэздэне. Для трона ў Варшаве больш надаваліся каралевічы Ксаверы (якога бацька чамусьці не любіў) і ўлюбёнец Карл. Пачынаючы ад 1751 года Аўгуст III намагаўся шляхам дамоў з Англіяй, Расіяй і Аўстрыяй, ды нават і з Францыяй, гарантаваць абранне аднаго з іх каралём польскім і вялікім князем літоўскім. Атрымаўшы згоду імператрыцы Лізаветы Пятроўны, Аўгуст III здолеў зрабіць ленным (васальным) герцагам Курляндыі сына Карла. Але яго дынастычныя планы не здзейсніліся. У 1763 годзе Расія патрабавала ад Карла пакінуць трон у Курляндыі, бо Кацярына II вярнула туды з высылкі Бірона. У Рэчы Паспалітай становішча караля стала менш надзейным, бо Кацярына II паміж Саксоніяй і Прусіяй зрабіла выбар на карысць апошняй, а крыху пазней заключыла з ёю саюз. Расійская імператрыца ва ўнутраных справах Рэчы Паспалітай таксама вырашыла падтрымаць Чартарыскіх, якія ўжо рыхтавалі на наступным сойме ўсё ж такі правесці рэформы дзеля ўзмацнення дзяржаўнага ладу, але не на карысць Аўгуста III. Эканамічнае становішча ў краіне пагаршалася. У Рэч Паспалітую плынямі ішлі фальшывыя манеты, іх білі па загадзе караля Фрыдрыха II на манетным двары ў Дрэздэне, захопленым прускімі войскамі. Анархія ў краіне набірала разгон...

Пасля заканчэння Губертсбургскага міру паміж Аўстрыяй з Саксоніяй і Прусіяй (15 лютага 1763 года) і адыходу прускіх войскаў з Саксоніі Аўгуст III выехаў з Варшавы ў Дрэздэн, дзе прабавіў некалькі месяцаў, выязджаючы на паляванні ці слухаючы любімыя оперы ў тэатры. Жонка яго памерла ў Дрэздэне яшчэ ў 1757 годзе падчас акупацыі краю прусакамі. Памёр Аўгуст III раптоўна. Здарылася гэта ў Дрэздэне 5 кастрычніка 1763 года.

Панаванне Аўгуста III у Рэчы Паспалітай было перыядам палітычнага крызісу, дэзарганізацыі дзяржаўнай улады, павелічэння залежнасці краіны ад суседзяў і перш за ўсё ад Расіі. Але ў гэты час пачаўся пад'ём гаспадаркі, пераход да чыншу ў панскіх гаспадарках (за кошт паншчыны), будаўніцтва мануфактурных прадпрыемстваў, у тым ліку на Беларусі. Ды і ў асвеце былі зроблены новыя крокі: праводзілася рэформа адукацыі, адчыняліся школы піярскага ордэна, куды прымалі дзяцей бацькоў рознага маёмаснага стану, навучанне было бясплатнае, а прадметы адпавядалі патрабаванням, якія былі ў школах іншых еўрапейскіх краін. Аднак гэта ўсё было дасягнута не дзякуючы палітыцы Аўгуста III, а без ягонага якога-небудзь удзелу ўвогуле.

Анатоль **ГРЫЦКЕВІЧ**

*На здымках:*

1. Аўгуст III.
2. Каваны балкон. XVIII стагоддзе.
3. Парцалянавая фігурка XVIII ст. Раскопкі Алега Трусава ў Навагрудку ля Барысаглебскай царквы. Друкуецца ўпершыню.
4. Касцёл святога Міхаіла ў вёсцы Лужкі (1744 — 1756). Шаркоўшчынскі раён.

# ШТО КРАЙ — ТО ЗВЫЧАЙ, ШТО СТАРАНА — ТО НАВІНА




## ПРАЦЯГВАЕМ ПРАДСТАЎЛЯЦЬ УДЗЕЛЬНІКАЎ МІЖНАРОДНАГА ФЕСТЫВАЛЮ ФАЛЬКЛОРУ

### Спевы матухны-зямлі

Усходнепалеская традыцыя спеваў на фестывалі прадстаўлена гуртом в.Янова Веткаўскага раёна, якая месціцца на мяжы з Бранскай вобласцю. Гэта тэрыторыя, на якой "сыходзяцца" тры ўсходнеславянскія народы — беларусы, рускія і украінцы, гэта зона іх сумеснай творчасці, дзе яны "праяўлялі зайздроснае аднадушша ў афармленні агульнага песеннага рэпертуару і ў выпрацоўцы адзіных стылёвых норм музычнага мастацтва" (В.Ялатаў).

Карнявы пласт традыцыйнай культуры найлепш захаваўся тут у абрадах і песнях вясенне-летняга перыяду. Вясной — гэта, перш за ўсё, звонкія загуканні з працяглымі кліканнямі "Гу!" у канцы кожнай страфы і карагоды, звязаныя са спецыфічным усходнепалескім абрадам пахавання "Стралы". Ва ўяўленні носьбітаў гэтай традыцыі ён "замыкае" вясну, "адмыкае" лета і ахоўвае ад летняй навальніцы ("страла" — метафара маланкі). Летні цыкл прадстаўлены жніўнымі і песнямі траецка-сёміцкай абраднасці, звязанай ва Усходнім Палессі з павер'ямі аб русалках. Шырока бытуюць тут вясельныя песні, моцны пласт непрымеркаванай лірыкі, ёсць сваё адметныя танцы.

Уладаркі ўсяго гэтага багацця — восем жанчын ва ўзросце ад 70 да 85 гадоў — нязменны цэнтр і душа ўсіх культурных падзей сваёй вёскі. Аснова гурта — нязменная запявала Марыя Марціноўская і яе сяброўка Аўдакея Цімафеенка, а таксама тры сястры: Аўдоцця Селюкова, Лукер'я Ісачанка і Соф'я Малашэнка.

Спевы яноўскага гурта вызначаюцца зусім адметным тэмбрам: мімаволі ўзнікае ўражанне, што гэта спявае сама матухна-зямля. Ярка вызначаная этнаграфічнасць гурта ўвесь час прыцягвае да яго ўвагу даследчыкаў і навукоўцаў. Тут неаднаразова бывалі фальклорна-этнаграфічныя экспедыцыі з розных вучэбных і даследчых устаноў Беларусі, некалькі год запар працавалі навуковыя супрацоўнікі Санкт-Пецярбургскага Інстытута рускай літаратуры (Пушкінскі Дом). Па матэрыялах сваіх экспедыцый яны падрыхтавалі дыск "Традыцыйныя песні Палесся", куды ўвайшлі 16 песен яноўскіх жанчын.

Мастацкі арганізатар гурта — Фядора Цішкова.

### І пайшлі па вёсках калядоўшчыкі...

Старажытнае народнае мастацтва Лоеўшчыны ёсць часткай паўднёва-ўсходняга этнакультурнага арэалу Беларусі і мае яго адметныя рысы (іх сцісла характарызуюць гл. у каментарыях да гуртоў в.Янова Веткаўскага і в.Якімава Слабада Светлагорскага раёнаў). На Лоеўскай зямлі здаўна жыве шмат таленавітых людзей, і ў апошнія гады асабліва прыкметнае іх імкненне аднавіць свае каранёвыя традыцыі ў побыце і культуры. Так адбылося і ў вёсках-суседзях Глушэц і Лутава, калі па ініцыятыве загадчыцы мясцовай бібліятэкі Тамары Шапавал у 1987 годзе сышліся восем жанчын з адным жаданнем: зрабіць так, каб у родных вёсках зноў пайшлі калядоўшчыкі, закружыліся вясновыя карагоды, загарэліся купальскія вогнішчы, загучалі спрадвечныя песні. За сем год успомнілі многае: каляду, веснавыя карагоды і гульні, жніво і вяселле, абрад ваджэння русалкі, разнастайныя танцы, шмат лірычных і жартоўных песень. Адным словам, цяпер лутаўскія спявачкі — адзін з тых аўтэнтычных гуртоў, у якіх па-мастацку ярка ўвасоблена традыцыя мясцовай культуры.

Жанчыны ахвотна выступаюць і з канцэртнымі праграмамі: яны частыя госці ў суседніх Хойніцкім і Брагінскім раёнах, двойчы былі запрошаны на абласное тэлебачанне, ні аднаго народнага свята не абыходзіцца без іх. Аб гэтым гурце створаны відэафільм.



Фота Жанны МАЁРАВАЙ.

### Родная песня — сімвал еднасці

Фальклорны гурт в.Стаі Лепельскага раёна склаўся ў 1987 г. Яго мастацкім арганізатарам была мясцовая настаўніца беларускай мовы і літаратуры Вера Буланда — чалавек улюбёны ў самабытную народную культуру сваіх мясцін, паэтэса. Менавіта яна паспрыяла таму, каб абудзіць песенныя душы жанчын сваёй вёскі, выклікаць у іх жаданне вярнуць у побыт сваю каранёвую культуру, даць ім магчымасць мастацкага самавыяўлення. Пачалі аднаўляць традыцыю з вяселля, потым прыпомнілі хрэсьбіны, потым і каляндарныя святы. І загучалі ў Стаях песні, пра якія Вера Аляксандраўна сказала:

*Песні родныя, душэўныя, святыя —*
*Старажытнымі завуць іх, а яны...*
*Больш сучасныя яны цяпер за тыя,*
*Што спяваюць дочкі і сыны.*

Яшчэ больш грунтоўна сталі аднаўляць мясцовыя культурныя традыцыі ўдзельніцы гурта з прыходам сюды ў якасці мастацкага арганізатара Людмілы Лантух: прыпомнілі новыя песні, больш увагі сталі аддаваць папулярызацыі мясцовых песень. Душа гурта — Галіна Фокіна, адна з мясцовых спявачак "мудрага" ўзросту, таленавітая, абаяльная жанчына, добрая апавядальніца і знаўца безлічы народных песень.

Усе адзінаццаць жанчын — шчырыя сяброўкі і праводзяць разам не толькі традыцыйныя святы сваёй вёскі, але і сустракаюцца падчас дзён нараджэння і проста ў вольныя дні. І над усім гэтым сімвал іх еднасці — родная песня, што надае іх жыццю асабліва глыбокае значэнне і сэнс.

### І танцоры, і музыкі

Сярод шматлікіх аўтэнтычных гуртоў на Беларусі ёсць і такія, якія амаль цалкам аддаюць перавагу танцу. Адзін з іх — гурт в.Сосны Любанскага раёна. У яго складзе 20 чалавек, частка з якіх — спевакі і музыкі і амаль усе танцоры. Ужо адзін пералік танцаў з рэпертуару гэтага гурта сведчыць аб шматграннасці і шматадценні харэаграфічных фарбаў, якімі ззяе майстэрства сасноўцаў: тут "Карапет" і "Месяц", "Сямёнаўна" і "Барыня", "Каробачка" і "Кракавяк", "Страданне", "Гапак", "Ва саду лі", "На рэчаньку" і канечне "Полька" і "Кадрыля". Танцы пераважна парныя, а вось "Гапак" танчаць утраёх. Асаблівы каларыт надае гурту ўдзел у ім мужчын. Гледачоў заўсёды захапляе шырокая амплітуда іх рухаў, тэмпераментнасць мноства дробных "выстукванняў" і "выбіванняў", невычэрпная выдумка сольных скокаў "адзін перад адным", нейкая асаблівая разняволенасць, якая, аднак, заўсёды трымаецца ў рамках эстэтычнага.

Адметнасць творчаму абліччу гурта надае спецыфічная манера выканання, якую можна было б вызначыць як "спружынасць" і якой валодаюць і старэйшыя, і маладыя танцоры. Як гэта звычайна бывае ў аўтэнтычных гуртах, тон у іх задаюць людзі сталага ўзросту. У сасноўскім гурце гэта Іван Серавокаў, Міхась Субота, маці дзевяці дзяцей Марыя Храловіч, Тамара Купрацэвіч, Еўфрасіння Воўчык, якіх вышыты касцюмы выканаўцаў.

Злучыўся гурт намаганнямі яго мастацкага арганізатара Любові Серавокай у 1985 г. і з тае пары зрабіў шмат для таго, каб з харэаграфічнай спадчынай Любаншчыны пазнаёміліся гледачы не толькі свайго, а і іншых рэгіёнаў Беларусі. Годна прадстаўляюць народных артысты сваё танцавальнае мастацтва і на гэтым фестывалі.

# ВЫТОКІ НАШАЙ ДУХОЎНАСЦІ

У Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры працягваецца выстава "Фальклор — духоўная спадчына народа", якая адкрылася 18 траўня.

Вусная паэтычная творчасць — неад'емная частка багатай духоўнай спадчыны нашага народа. Яна ўзнікла ў глыбокай старажытнасці і шчыльна звязана з жыццём чалавека, яго побытам, надзеямі і марамі. Ёсць дастатковыя падставы гаварыць аб тым, што беларускі фальклор — адзін з найбагацейшых у славянскім свеце. Збор, вывучэнне і папулярызацыя фальклорных здабыткаў мае вялікае гістарычнае, літаратурнае і нацыянальна-культурнае значэнне. Вядомы фалькларыст Еўдакім Раманаў адзначаў: "Беларускія песні сведчаць аб глыбокай старажытнасці беларускай народнай паэзіі і служаць доказам жывучасці і сілы беларуса, які не згубіў, нягледзячы на ўсе гістарычныя павароты і цяжкія ганенні, свайго этнічнага абліччa".

Да ліку набыткаў Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры можна аднесці працы вядомых фалькларыстаў М.Федароўскага, Я.Карскага, П.Шэйна, А.Сержпутоўскага, Е.Раманава, П.Шпілеўскага, С.Сахарава, Р.Шырмы і іншых. Фонды музея змяшчаюць таксама помнікі беларускага фальклору, даследаванні абрадаў вуснай паэтычнай творчасці, здымкі найбольш вядомых збіральнікаў і даследчыкаў фальклору. На выставе можна ўбачыць аўтографы знанага фалькларыста З.Даленгі-Хадакоўскага, працы вучоных Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі, рэдкія бібліяграфічныя выданні, якія сабраў літаратуразнавец і фалькларыст Іван Саламевіч.

Заслугоўвае ўвагі зграбна выкананая этнаграфічная карта Беларусі, на якой паказана распаўсюджанасць розных абрадаў па рэгіёнах нашай краіны.

Непаўторны каларыт надаюць выставе этнаграфічныя замалёўкі аднаго са старэйшых беларускіх графікаў Анатоля Тычыны. У свой час удава мастака Зінаіда Сямёнаўна перадала ў наш музей частку архіва Анатоля Мікалаевіча. Да нас трапілі яго мастацкія творы, цікавыя дакументы, паштоўкі, каталогі ды іншыя матэрыялы.

Фальклор ва ўсе часы з'яўляўся жыватворнай крыніцай для многіх выбітных мастакоў слова: В.Дунін-Марцінкевіч, Ф.Багушэвіч, А.Міцкевіч, М.Багдановіч, Я.Колас, Я.Купала неаднаразова бралі сюжэты з народных абрадаў, казак, песень. На падставе фальклору ішло эстэтычнае, духоўнае і мастацкае фармаванне класікаў нашай літаратуры.

Вялікае значэнне фальклору адзначаў Максім Гарэцкі: "Беларуская народная творчасць — гэта мора, якое хавае ў сабе незлічоныя скарбы". Таленавіты мастак слова сам збіраў і запісваў фальклорныя творы, шмат песень запісаў ён ад сваёй маці — выдатнай выканальніцы народных песень. Наведнікі выставы могуць пазнаёміцца з аўтографам вясельнай песні, якую М.Гарэцкі запісаў ад Ефрасінні Міхайлаўны:

*А ржуць коні за рэчкаю,*
*Весел гоман, сваты!*
*Схавай мяне, мая мамка,*
*Ня выйду я з хаты...*
*Шура-бура на каліну,*
*Каліну зламіла, —*
*Ні я жыла, ні я цьвіла,*
*А долі ня міну.*
*Чырвоныя касьнікі,*
*Чырвоныя стужкі,*
*Ты — княгіня маладая,*
*А мы табе — служкі.*
*Вязём князя маладога,*
*А княгіня думна,*
*Пілі, пілі гарэлачку,*
*Маладая сумна.*
*Першу ночку начавала,*
*Белую сарочку надзявала,*
*У новай клеці клалі спаць,*
*У цісовую караваць...*
*Жарка богу малілася,*
*З багаданым лажылася,*
*Як трысцінка дрыжала,*
*Уцеч к мамцы бажала.*
*Зайшла замуж — трэба жыць,*
*Нашто табе сьлёзкі ліць?*

1912 г.

Тут жа экспануюцца вышываны ручнік і тканы паясок, зробленыя працавітымі рукамі маці пісьменніка.

Мы не ставілі сваёй мэтай дасканала паказаць усе пласты беларускага фальклору, а засяродзіліся на каляндарна-абрадавых і сямейна-абрадавых творах, якія пазначаюць вытокі нацыянальнай самабытнасці беларусаў, вылучаючы нас сярод іншых славянскіх народаў. Акцэнты выставы зроблены на вясельны, радзіны, калядны, купальскі і велікодны абрады, расказваем мы і пра абрад ушанавання продкаў — Дзяды.

Мастацкае рашэнне выставы належыць мастаку Андрэю Рэвякову, але разам з ім над выставай працавалі яго сябры — Стась Сугонт, Алена і Сяргей Чырковы. Хацелася б адзначыць неардынарнасць іх маладой фантазіі, палёт думкі. Яны паспяхова вырашылі сваю задачу — стварылі вобраз традыцыйнай вясковай хаты, дзе нараджаліся паэтычныя шэдэўры вуснай народнай творчасці.

Народнапесенная творчасць і абрады складаюць адзінае цэлае з этнаграфічным матэрыялам, з'яўляюцца разам невычэрпнай крыніцай для вывучэння гісторыі і духоўных каштоўнасцей беларускага народа.

Як ілюстрацыя абрадаў — гучаць народныя песні ў выкананні фальклорных гуртоў, якія запісаны на відэакасеты.

Супрацоўнікі музея спадзяюцца, што выстава зацікавіць даследчыкаў беларускай народнай творчасці, настаўнікаў, студэнтаў, школьнікаў і ўсіх тых, каго цікавіць наша спадчына.

Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры размясціўся ў прыгожым куточку Мінска — Траецкім прадмесці, па вуліцы Максіма Багдановіча, 15. Шчыра запрашаем усіх на выставу "Фальклор — духоўная спадчына народа".

Аліцыя ШЫБІЦКАЯ.



# МЫ БУДЗЕМ ЯШЧЭ ГАНАРЫЦЦА

*Нататкі з Маладзечанскага фэсту*

### ДРУГІ НАЦЫЯНАЛЬНЫ

Што азначае фестываль беларускай песні і паэзіі "Маладзечна — 94" для айчыннай культуры, тлумачыць не трэба. Эстрада ў нашай краіне існуе, і фэст спрые яе далейшаму развіццю.

Асаблівую вартасць мае конкурс маладых выканаўцаў. Бо без моладзі, новых талентаў, новага погляду на свет няма аніякага руху наперад.

Крытэрыі конкурснага адбору былі высокія. Гэта дало свой плён. Узровень выканальніцтва стаўся прафесійным. Аднак адначасова назіраўся і нейкі стандарт. І ўсё-ткі яркія індывідуальнасці падараваў нам і другі нацыянальны фэст. Нізкі тэмбр голаса Наталлі Тамела нагадаў пра негрыцянскі джаз 50-х гадоў... Віцьблянка Ларыса Грыбалёва кожную песню выконвала, нібыта іграла спектакль... Магілёўчанка Наталля Кудрына — уладальніца Гран-пры — прыцягнула ўвагу сваёй экспрэсіяй, прафесіяналізмам.

Сярод чатырнаццаці канкурсантаў да трэцяга, заключнага тура, што з'явілася своеасаблівым адкрыццём фэсту, дайшлі толькі двое юнакоў. Першую прэмію атрымаў Леанід Вайтовіч — спявак, які мае яркую індывідуальнасць.

Некалькі канкурсантаў запрошаны працаваць у Дзяржаўны канцэртны аркестр Рэспублікі Беларусь. Кіраўнік калектыву і галоўны дырыжор Міхаіл Фінберг упэўнены: "Кожны ўдзельнік конкурсу — прафесіянал высокага класа. І з кожным неабходна працаваць..."

Калі для большасці гасцей і многіх удзельнікаў фестываль з'яўляўся цікавай творчай тусоўкай, магчымасцю сустрэцца, паразмаўляць на прафесійныя тэмы, то для Дзяржаркестра гэтыя два мітуслівыя дні былі запоўнены амаль несканчальнай працай. Рэпетыцыі пачыналіся раніцою, а шматлікія канцэрты заканчваліся далёка пасля апоўначы.

Трохі пра гала-канцэрты, што адбыліся пры адкрыцці і закрыцці фэсту. Адчуванне ў мяне было такое, напэўна, са мной пагодзяцца многія тэлегледачы, што гэта ўжо шмат разоў бачана... Беларускія выканаўцы настолькі звыкліся, настолькі знаёмыя. Ніводны з іх не ўразіў ні знаходкамі, ні новым іміджам.

Адрозніваўся сёлетні фэст ад леташняга (тады ў Маладзечна прыехала шмат вядомых выканаўцаў з розных краінаў былога СССР) па колькасці гасцей. Іх было толькі двое. На адкрыцці выступіў Юрый Антонаў, які нарадзіўся ў Маладзечне. Ён спяваў пад "фанеру" і быў усім незадаволены: "Усё не так. І навошта я прыехаў? І навошта ад сур'ёзнай працы адарвалі?" Затое Тамара Гвардцытэлі, якая прыехала ў пахмурны Маладзечна з сонечнага Тбілісі, была задаволена ўсім. Яна выступіла ў "жывую" пад музычнае суправаджэнне аркестра Фінберга. Спявачка захапіла аўдыторыю сваім майстэрствам, тэмпераментам.



### ЧЫМ МАЦНЕЙШАЯ ЭКАНОМІКА...

Тым лепей жывецца культуры, тым больш трывала яна пачувае сябе, шырэй ахоплівае ўсе сацыяльныя пласты і сферы жыцця.

Ад леташняга фэсту да сёлетняга прайшоў год. За гэты, здавалася б, невялічкі тэрмін Беларусь ператварылася з больш-менш заможнай у бедную. Эканамічны крызіс ударыў і па культуры. Недахоп сродкаў адбіўся і на фестывалі. Ягоная праграма была скарочана да двух дзён. Прызавы фонд складаў 300 мільёнаў рублёў. Пераможца Наталля Кудрына атрымала галоўны прыз — "Жыгулі". Але ж, як слушна заўважылі сталыя прафесіяналы, маладому артысту, які пачынае творчую кар'еру, грошы больш патрэбныя.

Значную дапамогу аказалі фестывалю спонсары. Без іх унёску свята выглядала б зусім сціплым. І ўсё-ткі ператварыць "Маладзечна — 94" у грандыёзнае шоу не ўдалося. Без моцнай фінансавай падтрымкі, як ні імкнуліся б эстрадныя дзеячы вырашаць самастойна праблемы, наладзіць сапраўднае песеннае свята немагчыма. Таму не з'явіліся на фэсце замежныя госці. Таму не выйшла пакуль наша сучасная музыка на міжнародную арэну...

Фестываль паказаў — спевакоў добрых у нас хапае. Ёсць у нас добрыя кампазітары, музыканты, паэты. Нарэшце, ёсць у нас цудоўны творчы калектыў — Дзяржаўны канцэртны аркестр пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга. Але няма на Беларусі адладжанага шоу-бізнеса. А без яго выхад у вялікі свет — нерэальны. Шоу-бізнес трэба стварыць як мага хутчэй...

### КУЛЬТУРА І ЭКАНОМІКА

Фестываль праходзіў, калі набіраў моц перадвыбарчы марафон. Гаспадар Маладзечна і арганізатар свята Генадзь Карпенка, палітык сур'ёзны і ўмелы, выстаўляў сваю кандыдатуру на пост прэзідэнта. Не набраўшы патрабуемай колькасці галасоў, вырашыў выйсці з перадвыбарчай барацьбы, далучыўшыся да платформы БНФ. "Я не хачу, каб на гэтым свяце было нават лёгкае палітычнае адценне", — казаў ён. Сапраўды, фестываль не выглядаў прапагандысцкім мерапрыемствам. Гэта было свята Мастацтва!

Тут усіх прымалі гасцінна і добразычліва. Пабывалі на свяце палітычныя лідэры Зянон Пазьняк і Станіслаў Шушкевіч. Іх прысутнасць, безумоўна, унесла асаблівы настрой і каларыт. Але самымі галоўнымі дзеючымі асобамі на фестывалі былі музыка, песня і маладосць.

* * *

Адышлі ў мінулае два прыгожыя песенныя чэрвеньскія дні. У наш час падзеі развіваюцца імкліва. Шмат чаго зменіцца за год. Няхай ён прынясе нам больш добрага, станоўчага. Няхай з'явіцца больш цудоўных песень і вершаў, здольных спевакоў. Калі ўмацуецца наша эканоміка і ўсталюецца беларускі шоу-бізнес, умацуецца і культура.

Асабіста я ўпэўнены: у нацыянальнага фестывалю сучаснай музыкі, як і ў нашай маладой краіны, добрая будучыня! Маладзечанскае песеннае свята палюбілася беларусам. Яно зробіцца нашым гонарам!

Чакайма цябе, "Маладзечна — 95"!

**Антон ГРЫБАЎ,**
**наш спец. кар.**

*На здымках:*

Уладальніца Гран-пры Наталля Кудрына з галоўным прызам.

Аляксандр Саладуха і група "Карусель-2".

Першую прэмію заваявала Наталля Тамела.

Фота Аляксандра КУШНЕРА.



# СЛОВА ПРА НАСТАЎНІКА

Ніколі не думала, што давядзецца пісаць пра яго ў мінулым часе. На працягу амаль дваццаці гадоў ягоная прысутнасць была настолькі натуральнай і звыклай, што, здавалася, так павінна быць заўсёды: не сёння, дык заўтра я абавязкова ўбачу яго ў кансерваторыі ці дома — з нотамі, кнігай або з любімым інструментам флейтай. Сцяпан Уладзіміравіч Сізко быў не проста бацькам лепшай школьнай сяброўкі, але і маім выкладчыкам у класе камернага ансамбля.

Толькі цяпер, з гадамі, я зразумела, што гэтаму чалавеку Бог даў дар спазнаць многія таямніцы духоўнай існасці. Нам, маладым, ён ніколі не даваў адчуць дыстанцыі, што аддзяляла яго ўсёведанне ад нашай вучнёўскай наіўнасці. Ён не лічыў неабходным выказваць нейкія сентэнцыі, а толькі мякка падказваў, змушаў задумацца ды інакш паглядзець на пэўную з'яву. Чамусьці заўсёды хацелася прыслухацца да яго парады. Вабіла, перш за ўсё, нейкая парадаксальнасць меркаванняў аб музыцы і — шырэй — аб мастацкай творчасці. Асабліва глыбокімі былі ягоныя думкі аб спадчыне Моцарта і Шастаковіча. Здавалася, Сцяпан Уладзіміравіч чуў, адчуваў яе знутры, якімсьці містычным чынам спасцігаючы не толькі мастацкі вынік, але і — святая святых —імпульс і механізм творчага працэсу з яго спрадвечным феноменам хіба не большай улады твора над аўтарам, чым аўтара над творам.

Толькі зараз становіцца відавочным, што эфект той спараджала арганічнае ўспрыманне мастацка-эстэтычнага "поля" твора — адзінага для музычнага і пазамузычнага мікракосму. Для Настаўніка было надзвычай натуральна выходзіць у сваіх афарыстычных выказваннях за межы ўласна гукавой тканіны і адначасова знаходзіць толькі ёй адной уласцівыя якасці і імпульсы. Яго кароткія заўвагі, глыбокія і эўрыстычныя, без перабольшвання, "каштавалі" болей, чым іншыя эсэ ці гісторыка-стылёвыя экскурсы. Разам з тым існавала і іншае: Майстар ніколі не адыходзіў ад музыкі як віду мастацтва, ад спецыфікі яе выразных сродкаў і спосабаў выканальніцкага ўвасаблення. Калі ж ён браў у рукі флейту і паказваў, як трэба, на яго думку, інтаніраваць і фразіраваць той ці іншы фрагмент, усе словы аказваліся залішнімі — настолькі дасканалым, тонкім і стылістычна бездакорным было яго выкананне.

Ён заўсёды імкнуўся да таго ўсеахопнага прафесіяналізму, якога вымагае музыка з яе патрабаваннем шматлікіх ахвяр і адрынікаў — часу, сіл, здароўя. І трэба сказаць, сам ён прыносіў тыя ахвяры з лёгкасцю незвычайнай, быццам не адно, а тры жыцці ў яго яшчэ наперадзе. Ніколі не задавальняючыся ў мастацтве малым, вучыў таму ж сваіх выхаванцаў. Ён не ведаў пачуцця ўласнай выключнасці, хоць меў на тое падставы як адзін з самых эрудзіраваных музыкантаў. Ён не падаляў уласным аўтарытэтам нават тады, калі на працягу многіх гадоў кіраваў кафедрай, і, здаецца, не імкнуўся той аўтарытэт заваяваць. Бо гэта было залішне: праца, канцэрты, лекцыі, вучні па класу флейты і камернага ансамбля (а сярод іх шмат добра вядомых сёння тытулаваных музыкантаў — У.Буры, В.Ціхевіч, Г.Мацюкова, Ю.Гільдзюк, Ю.Корсак, А.Алоўнікаў ды інш.) гаварылі самі за сябе. І хоць усе яго выхаванцы такія розныя, яны адкажуць на запытанне пра Сцяпана Уладзіміравіча, бадай, аднолькава: мы памятаем і будзем заўсёды памятаць яго як чалавека неабсяжных ведаў, высокага прафесіяналізму, вялікай душы і творчага духу.

Вольга ДАДЗІЁМАВА.



# ДРЭВЫ ПАД ДАЖДЖОМ

Экспазіцыя твораў жывапісца Валерыя Песіна "Дрэвы пад дажджом", якую 13 чэрвеня прадставіла гледачам галерэя "6-я лінія", настройвае на паэтычны лад. Тут няма жадання гаварыць і спрачацца аб традыцыях і авангардзе. Прызнаемся адразу: мы не будзем прылічваць творчасць гэтага мастака да ніводнага напрамку. Яно нам падабаецца і без гучнай шыльды.

Біяграфія Валерыя красамоўней за ўсялякі халодны аналіз ягоных твораў. Перасправаваўшы шмат іншых прафесій, у 1987 г. ён прыйшоў да жывапісу. Творчы рост адбываўся ў атмасферы гарадской неафіцыйнай культуры часоў "перабудовы": тады ён удзельнічаў у мала каму цяпер вядомай суполцы "Бло", што аб'ядноўвала мастакоў іранічных, меўшых радыкальнае стаўленне да звычайнай эстэтыкі і меркаванняў афіцыйнай крытыкі аб межах дазволенага ў жывапісе. Тады і склаўся своеасаблівы "валераў" (карціны ён падпісвае проста "Валера") стыль — дзіўна "няправільны", гранічна разняволены. Тым не менш глыбокая культура ўзаемазносінаў з уласным унутраным светам ніколі не давала гэтай разланцужанасці перайсці ў разлайданасць, а экспрэсіўны напор у ягоных карцінах заўсёды стрымліваецца і ўраўнаважваецца інтуітыўным пачуццём гармоніі.

Галоўная інтанацыя твораў Песіна — гэта імкненне да гарманічнага яднання чалавека



са светам,светам у ягоных натуральных, прыродных іпастасях — снегу, пяску, дажджу, аблокаў... Але гэтыя стыхіі для ягоных карцін з'яўляюцца толькі матывам. Мастак нічога не намагаецца "выяўляць", ён проста адчувае і думае колерам, рытмам, шчыльнасцю з'яваў прыроды. І дзіўная справа: Валерый так кладзе фарбы, што вы пачынаеце бачыць глыбіню лесу нават без самога лесу, сцежку ў садзе — без саду, аблокі — без азначэння верху і нізу. Зрэшты, воблака можа ператварыцца ў кветку, дождж — у дрэвы, якія растуць з неба, а само неба — у ваду. Няма нічога прадвызначанага, раз і назаўсёды дадзенага. Затое фантастычна прыгожыя назвы — "Пах зялёных арэхаў", "Бландзін у садзе", "Дождж на чылійскім узбярэжжы" — рассоўваюць гарызонт нашага ўяўлення, абуджаюць асацыятыўную памяць.

Валерый цяпер мала ўдзельнічае ў "культурным жыцці", яго цяжка зацягнуць на вернісажы і "тусоўкі", цяжка ўгаварыць пазнаёміцца з "патрэбнымі" людзьмі. Ягонае жыццё — гэта сям'я і майстэрня. Менавіта яны сталіся вытокамі натхнення мастака, яны дапамагаюць зберагчы унікальны дар — здольнасць да натуральнага існавання дзеля свайго мастацтва без пустой мітусні. Калісьці Пастарнака вінавацілі ў тым, што ягоны Сусвет абмяжоўваецца ягоным лецішчам. Але ж гэта талент сапраўднага творцы — у малым бачыць праекцыю вялікіх абшараў, чуць у гуках дажджу за вокнамі гул сусвету. Таму светабудова Валерыя Песіна мае бясконцую глыбіню і не мае дна, гэта ўшчыльнены Сусвет, з якога ўсплывае то "Калекцыя аблокаў", то сад, то цалкам медытатыўны "Гарчычны лес". Ягоныя "краявіды" пазбаўлены перспектывы. Лінія гарызонту часта замяняецца аконнай рамай ці праёмам дзвярэй, што ўспрымаецца як адчуванне шчыльнай лучнасці асабістай прасторы, расчыненай праз вакно або дзверы, з абшарам светабудовы. Жывапіс Песіна вельмі блізкі да актыўнага светаўспрыняцця Пастарнака: "... Один / Зимний день в дверном



проеме / Незадернутых гардин", — хаця сам Валерый аддае перавагу Бродскаму. Сапраўды, блізкасць да філасофскай сузіральнасці паэзіі Бродскага можна адчуць у апошніх працах, дзе мастак углядаецца ў свет, як у створаны ўласным уяўленнем краявід: "Как семейно шуршанье дождя! / как хорошо заштопаны / им прорехи в пейзаже изношенном..." Апошнім часам почырк Валерыя змяніўся. Прастора карціны сталася менш гразкай і глыбокай, менш таямнічай, а колеры набылі большую чысціню і рашучасць. Мастак нібыта зрабіў крок за ганак дому, перад дзвярыма якога ён так доўга стаяў.

**Вольга КАПЁНКІНА.**

*На здымках*: "Дрэвы пад вакном", "Над морам".

**Фота Валерыя ПЕСІНА.**

# ДВОЕ



Выстаўка Кузняцовых — з'ява цэласная і характэрная для Года сям'і. У выставачнай зале мы ўбачылі не толькі мадэль Сусвету, якая складаецца з двух полюсаў, процілеглых знакаў, але і відавочнае ўвасабленне саюзу блізкіх людзей — Анатоля і Ірыны.

Карціны А.Кузняцова народжаны легендамі і паданнямі беларускіх сялян. Літаратурныя сюжэты ператвараюцца ў пластычную і каляровую сістэму палотнаў. Мастак захоўвае ў іх адчуванне таямнічасці: постаці ўзнікаюць з дынамічных рухаў каларыстычнай прасторы і — раствараюцца ў ёй. У яго карцінах адбываецца вяртанне чалавека ў Прыроду.

Ірына захапляецца вучэннем аб Космасе. Яго вялікія катэгорыі яна пераводзіць на мову фарбаў і рытмаў жывапісных кампазіцый. Арганічна ўзнікаюць яе вершы, якія толькі ўзбагачаюць гучанне твораў. Мастак адраджае абстрактныя формы ўвасаблення, надае ім яскравую эмацыйную афарбоўку.



Імёны гэтых творцаў даўно вядомы гледачу — і беларускаму, і замежнаму. Іх выстаўкі праходзілі ў Італіі, Францыі, Германіі. Але падвядзенне вынікаў — у творчасці і ў жыцці — адбылося тут, у выставачнай зале Палаца мастацтва, дзе стрэліся і перапляліся дзве плыні, два погляды на жыццё.

**Ларыса САЛОДКІНА.**

*На здымках:*

1. Ірына КУЗНЯЦОВА. "Рытмы сусвету".

2. Анатоль КУЗНЯЦОЎ. З трыпціха "Русалкі на возеры Вурода".



# ВЕРСІЯ МАЛАДЫХ

14 чэрвеня ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі адкрылася выстава трох маладых мастакоў — Генадзя Козела, Канстанціна Селіханава (ён закончыў Акадэмію мастацтваў у мінулым годзе) і Ігара Жука (выпускнік гэтага года). Звяртаючыся да яе першых наведнікаў, мастацтвазнавец Ларыса Салодкіна адзначыла, што сама яе назва — "Версія" — павінна была падкрэсліць: гэтыя творы не прэтэндуюць на ролю апошняга слова ў авангардным мастацтве, яны складаюць толькі адну з магчымых версій успрымання свету сучасным чалавекам. Куратарка выставы выказала таксама ўдзячнасць спонсарам: нямецкай фірме "Герышэр Шродэр", Інстытуту грамадскіх сувязей і газеце "Знамя юности", бо без іх падтрымкі выстава проста не адбылася б.

Дык якім жа ўспрымаюць рэчаісны свет маладыя? Маё агульнае ўражанне — як штосьці далёкае, напаўзабытае. Большасць твораў уяўляе сабой прастору сну ці настальгічнага трызнення аб рэчаіснасці, да якога можа далучыцца кожны глядач. Ігар Жук у серыі графічных аркушаў "Архаіка" накладвае на манахромныя ці каляровыя пляміны сімвалы старадаўніх цывілізацый. Так сустракаюцца на мяжы абстрактнага і прымітыўнага мастацтва сучаснасць і сівая даўніна чалавецтва. Генадзь Козел выставіў два вялізных, падобных на ветразі, квадраты тканіны — чорны і белы. Магчыма, у спрэчцы з Малевічам, паверх "цытатаў" з яго мастак напісаў сілуэты ці то чалавечых торсаў, ці то замочных адтулін, якія сімвалізуюць магчымасць вяртання са свету чыстых ідэй і геаметрычных формаў у прастору будзённай рэчаіснасці. Аднак найбольш цікавым з усіх трох мне падаўся скульптар Канстанцін Селіханаў. У фігурках з бронзы, мармуру, дрэва ён даводзіць, што чалавечае цела застаецца пазнавальным, нават набыўшы неверагодныя, фантастычныя абрысы. Людзі Селіханава падобныя на ветразі, курыныя лапкі, хмары, агуркі і на што заўгодна. Праўда, сціплыя памеры скульптур шкодзяць адэкватнаму іх успрыняццю — хутчэй, гэта праекты да буйнамаштабных твораў.

На адкрыцці выставы мастакоў павіншаваў таксама аташэ па культуры амбасады Італьянскай Рэспублікі Асвальда Леуцы: "Маладосць — гэта час выбару і канфліктаў. Мы вельмі разлічваем, што новае пакаленне беларускіх мастакоў перажыве яе плённа". А сакратар Саюза мастакоў Валерый Даўялаў заклікаў усіх маладых актыўней шукаць спонсараў і часцей выстаўляцца.

**Юрась БАРЫСЕВІЧ.**









*На здымках:*

1. Ігар ЖУК. З серыі "Архаіка". Версія XIII.

2. Генадзь КОЗЕЛ. Без назвы.

3. Канстанцін СЕЛІХАНАЎ. "Выкраданне Еўропы". Бронза.

4. Канстанцін СЕЛІХАНАЎ. Без назвы.



# ВЕРНІСАЖ ВЫПУСКНІКОЎ

Беларуская Акадэмія мастацтваў зрабіла чарговую справаздачу: выстаўку дыпломных прац сваіх выпускнікоў. Гэта традыцыйная падзея адбылася ў залах Рэспубліканскай мастацкай галерэі Саюза мастакоў Беларусі. Выстава як заўсёды прыцягнула ўвагу беларускіх гледачоў: усе ішлі глядзець, што "дзень наступны нам рыхтуе"... Шукалі адкрыццяў, эксперыментаў, якіх нямала было прадстаўлена ў экспазіцыі.

Але ўсё ж гэта быў і апошні студэнцкі экзамен перад выкладчыкамі. Маладыя мастакі дэманстравалі свае веды ў пабудове кампазіцый, разуменні каларыту, карыстанні тэхнікай выканання. Для многіх гэта было першае выступленне ў прэстыжных выставачных залах рэспублікі. Многія з іх выдатна вытрымалі такое выпрабаванне.

Жывапісцы, скульптары, графікі, дызайнеры на гэты раз дэманстравалі не толькі сваё прафесійнае ўменне, яны цудам выстаялі перад матэрыяльнымі цяжкасцямі, калі для заканчэння працы не хапала элементарных матэрыялаў: фарбаў, палатна, прыстасаванняў. Выстаўка нарадзіла пытанні: як выжыць маладому мастаку ва ўмовах татальнага збяднення? Ці многія захаваюць свой дар перад жорсткай грымасай айчыннага рынку? Па якому шляху пойдзе адраджэнне нацыянальнага ў мастацтве?

**Ларыса САЛОДКІНА.**

На здымку: дыпломны праект абараняе Уладзіслаў Казаноўскі.




# Кожны засейвае сваё поле сам

ЗА КУБАЧКАМ гарбаты, апроч здароўя і апошніх палітычных навін (хіба ж мы можам адпачываць без размоў аб палітыцы!), звычайна гавораць пра дзяцей.

Мы справядліва ганарымся, што маем паслухмяных, з добрымі адзнакамі ў школе (ці інстытуце) дзяцей. Часам хаваем самі ад сябе, што пад іх знешняй паслухмянасцю хаваецца паблажлівае, трохі шкадавальнае пачуццё: "Вы сабе кажыце, а мы будзем рабіць так, як ведаем. А ведаем мы болей і лепей за вас".

Непаразуменні паміж пакаленнямі — справа звычайная. Дваццаць — трыццаць гадоў, што аддзяляюць нас ад нашых бацькоў і ад нашых дзяцей, — гэтая цэлая плынь часу! Нам здаюцца смешнымі і наіўнымі разважанні старэйшых аб шчаслівым сацыялістычным быцці — нашым дзецям старамоднымі здаемся мы самі, з нашым непрыманнем камерцыйных адносін, іх захаплення "кадзілакамі", "Мальбара", поп-музыкай. Ісціна ў кожнага пакалення свая, але над намі ўсімі ёсць вечныя. Напрыклад: мы не ўладныя над сваім жыццём, і ніхто не ведае, апроч вялікіх мудрацоў, час сваёй смерці. У Марыны Цвятаевай, сярод яе маладых вершаў, ёсць радкі: "Яшчэ мяне любіце за тое, што памру". І гэтае пранізлівае шкадаванне адзін аднаго — бацькоў, якія, можа, перажывуць нас, нашых дзяцей, якім наканаваны лёс, неспазнаны намі, ёсць тыя ніты, якія нас аб'ядноўваюць. І яшчэ — любоў.

Хто не любіць сваё дзіця? Вядома, ёсць і кінутыя, і нават задушаныя сваімі бацькамі дзеці. Але гэта — з крымінальнай статыстыкі. У нармальных жа сем'ях дзяцей любяць, ім аддаюць лепшае, іх чакаюць з вечарыны ці спаткання з адчайным жаданнем-малітваю: "Толькі б нічога не здарылася!" Мы аддаем ім нашу любоў і сцелемся, каб у іх было тое, чаго былі пазбаўлены мы — гэтак жа нашы бацькі, што спазналі вайну і голад, стараліся, каб мы ніколі не ведалі голаду... Але ўзамен мы патрабуем, каб дзіця рабіла тое, што мы альбо загадваем, альбо ўкладваем у яго ласкаю.

Але ці ведаем мы самі, што ёсць ісціна?

Вельмі часта псіхолагі і вучоныя сцвярджаюць, што дзеці нараджаюцца таленавітымі, іх фантазія не мае межаў, свет у іх уяўленні каляровы і разнастайны. Яны не ведаюць маны, усе людзі ім здаюцца добрымі, яны вераць усяму, што кажа дарослы.

А што кажуць дарослыя?

У дзіцячым садку альбо каля пясочніцы дзеці расказваюць усё, што робіцца ў хаце, аб чым дарослыя разважаюць услых, не думаючы аб маленькіх цікаўных вушках:

— Мой тата душыў маму падушкай, а яна яго стукнула прасам!

— А мая мама сядзела ў кафэ з дзядзем, а я ела марожанае. Мама сказала, што калі я буду маўчаць, яна мне будзе ўвесь час купляць самае дарагое марожанае!

— А да нас прыходзіла Мар'я Іванаўна. Мама сказала, што яна дурніца, а тата — што яна яго начальніца!

Дзіця можа шчыра расказаць Мар'і Іванаўне, што гаворыць мама, і вельмі цяжка пачынае разумець, за што яго пакаралі: "Мама, ты ж казала!"

А свет фантазіі! Тамара Глоба піша, што яна сапраўды бачыла вялікую бурую істоту, падобную да мядзведзя, якая прыходзіла да іх у спальню. Але бацькам пра гэта не казала — баялася, што будуць смяяцца. Эзатэрычныя веды гавораць, што дзеці, асабліва да трох гадоў, сапраўды бачаць нейкія іншыя рэчы, што знаходзяцца на стыку нашага трэцяга і больш высокіх вымярэнняў... Зрэшты, дзецям можна не верыць — але да ўсяго, што яны гавораць, лепей за ўсё адносіцца з павагай.

Павага — вось тое, чаго так катастрафічна не хапае ў нашых адносінах да дзяцей. Некаторыя кажуць — смешна, як я буду паважаць трохгадовага карапузіка, ён жа яшчэ дурненькі! Успомніце мудрую аповесць пра Мэры Попінс — там нездарма ёсць эпізод пра маленькае дзіця, якое свабодна гаварыла з птушкай, але, калі прайшоў нейкі час, яно забылася на гэтую мову і, перайшоўшы на мову людзей, толькі бессэнсоўна кугікала ў адказ на словы птушкі...

Нашы дзеці — мудрэйшыя за нас. Можа, у гэтым сакрэт асаблівай любові да дзяцей бабулек і дзядулек — толькі пастарэўшы, людзі пачынаюць, часта інтуітыўна, разумець, што дзеці ізноў дазваляюць нам зазірнуць у страчаную краіну — краіну свежасці і чысціні, даверу і святла. У дзіцяці свой лёс, свая, як кажуць многія старадаўнія рэлігіі, карма, і гэты дух прыцягнула да вас



дзеля таго, каб вы далі яму самае лепшае, што ёсць у вас. Далі — але не прымушалі, не гвалцілі, не мучылі сваімі ўяўленнямі аб жыцці і людзях.

Як часта даводзіцца бачыць у тралейбусе ці на вуліцы — маці раз'юшана б'е дзіця, яно крычыць. Прахожыя спрабуюць заступіцца, але чуюць у адказ: "Не ваша справа, гэта маё дзіця!" Я заўсёды ўспамінаю мудрую індыйскую прымаўку: "Дзіця ў доме — госць".

Так, вырасшы, яно пойдзе сваім шляхам. І нават жывучы з намі, яно бачыць свет па-іншаму, па-іншаму ўспрымае і сказаныя словы, і зробленыя вамі ўчынкі. І ў гэтым непаразуменні сакрэт таго, што многія дзеці ўспрымаюць бацькоў як своеасаблівых жандараў, якія толькі і гавораць: "Гэтага — нельга, гэта — не так".

Яны могуць прыслухоўвацца да нашага вопыту толькі тады, калі мы не навязваем яго, а дзелімся, прычым не выступаючы непагрэшнымі багамі. Багоў яны ў нас не могуць бачыць — мы ж тут, перад імі, з усімі сваімі недахопамі. Трэба пераканаць дзіця, што і ты можаш памыляцца, але табе здаецца, што вось гэты ўчынак прывядзе да вось гэтага выніку... Паверце, вы не прайграеце ў вачах сына альбо дачкі, калі падзеліцеся сваімі сумненнямі, калі на просьбу нешта купіць раскажаце пра хатні бюджэт і на што трацяцца грошы. У сем'ях, дзе з дзецьмі раяцца, дзе ім давяраюць, куды меней канфліктаў. І наадварот —там, дзе ёсць аўтарытарнае праўленне — бацькі ці маці, ці абодвух бацькоў, — там пастаянныя канфлікты альбо прытворства.

Над намі жыве сям'я, чые сваркі, звычайна па суботах альбо нядзелях, мы вымушаны слухаць ва ўсіх падрабязнасцях (вушы ж не заткнеш, а сцены тонкія). Дачка часта ходзіць з сяброўкамі пад гасцініцу "Планета" альбо "Юбілейная", бацька (невялікі, але начальнік), звычайна называе яе ўсімі друкаванымі і недрукаванымі для такіх спраў словамі. І яна крычыць у адказ: "Я там за суткі зарабляю болей, чым вы, яшчары, за месяц!"

Можна сказаць — вінаватая сістэма, якая дазваляе прастытуткам зарабляць болей за тых, хто сумленна працуе. Мне ж здаецца, што ўся бяда ў тым, што гэтыя бацькі не змаглі з маленства закласці ў дзяўчынку імпульс маральнай і фізічнай чысціні, які ніколі б не дазволіў ёй зарабляць грошы такім чынам. Да слова — ганебна, што нашы дзяўчаты-путаны, па выказванні многіх замежных гасцей, самыя танныя ў свеце, і што заробак гэты не тое каб не асуджаўся грамадствам, але і нават прыўзнімаецца ў прэсе, у той час як па законах зараастрыйцаў, якія выдатна ведалі законы Космасу і Зямлі, жанчыну, што павінна несці Жыццё і пагрузла ў распусце, чакала толькі смерць, каб яна, жанчына, не магла перадаць свайму будучаму дзіцяці страшную заразу растленнасці... А мудрая Прырода нездарма ў большасці пазбаўляла такіх жанчын магчымасці нараджаць дзяцей — у Прыроды, як правіла, не бывае выпадковасцей, яна ведае, што робіць. Хто дыктуе, напрыклад, Прыродзе, калі на Поўначы сталі адстрэльваць ваўкоў і іх пагалоўе зменшылася, "загадаць" ваўчыцам нараджаць замест аднаго да дзесяці ваўчанят?!

Вядома, мы павінны даць сваім дзецям правілы, па якіх ім прыйдзецца жыць у чалавечым асяроддзі. Чалавек, які прывык, каб ягоныя жаданні былі вышэйшымі за жаданні астатніх, прыносіць акружаючым шмат непрыемнасцей і пакут, як і той, хто не ўмее сябе паводзіць у грамадстве. Непрыязнасць да чалавека, а значыць, і непрыемнасці яму можа даставіць самая нязначная дробязь, не засвоеная яшчэ ў дзяцінстве — ну, напрыклад, звычка есці "з прыхлёбам", з чаўканнем. Я ведаю чалавека, якому гэта каштавала кар'еры... Аднак жа, калі бачыш, як старанная маці літаральна тэрарызуе дзіця за сталом: "Не боўтай нагамі! Трымай лыжку правільна! Хілі талерку ў працілеглы бок!" і г.д., то міжволі ўспамінаеш прымаўку: "Прымусь дурня маліцца..."

Усяму можна навучыць дзіця — але навучыць цярпліва, з павагай да ягонага меркавання, з тлумачэннем, чаму ты робіш гэтак, а не інача. Давер, які ўсталёўваецца паміж бацькамі і дзецьмі з дзяцінства, дае значную палёгку ў будучым, калі маленькія істоты, што ва ўсім залежаць ад цябе, вырастаюць у дарослых і самастойных людзей. Тут ужо непаразуменні могуць стаць па-сапраўднаму трагічнымі. Яны — маладыя, поўныя сіл, а мы... Паэт Цютчаў, напрыклад, выдатна напісаў пра гэтыя супярэчнасці:

*"Избавь меня от этой злости*
*На изменяющийся мир,*
*Где новые садятся гости*
*За уготованный им пир..."*

Перад маладымі свет рассцілаецца як іх уласнасць, і яны, вядома, ведаюць, што пастарэюць, але ж не вераць гэтаму, як не верылі ў гэта мы самі, гледзячы на нямоглых, з нейкімі там сваімі хваробамі, стомленых бацькоў... Як важна не даць выплюхнуцца нашай падсвядомай злосці на "свет, які мяняецца", і дзе ўжо не мы гаспадары! Як важна ўтрымаць павагу сваіх дзяцей! Бо менавіта ў гэтыя гады вяртаецца да нас усё, што мы самі пасеялі — раздражнёнасць, злосць, няўважлівасць. А калі сеялі любоў, давер, павагу, — яны таксама вернуцца...

... Маці з шасцігадовай дачкой сядзіць у тралейбусе. Побач — згорбленая старая. Дзіця хоча ўстаць, даць месца. "Не ўставай! — крычыць маладая, поўная сіл жанчына. — Пастаіць, нічога ёй не станецца!"

... Кожны засейвае сваё поле тым, чым хоча...

**Таццяна ДАЛГОВА.**

Культура
ШТОТЫДНЁВАЯ
ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991года

Заснавальнік —
Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — Вольга ІПАТАВА

Нам.галоўнага рэдактара —
Людміла КРУШЫНСКАЯ

Рэдкалегія:

А. ВАНІЦКІ, В. ГЕДРОЙЦ, У. ГІЛЕП,
Н. ЗАГОРСКАЯ, С. ЗАКОННІКАЎ,
А. КУДРАВЕЦ, М. КУПАВА, В. РАКІЦКІ,
В. СКВАРЦОЎ, К. ТАРАСАЎ, А. ТРУСАЎ,
В. ТУРАЎ, В. ШАРАНГОВІЧ.

Адказны сакратар — Андрэй ВАШКЕВІЧ
Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Набор і вёрстка кампутарнага цэнтра
газеты «Культура»

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.

Тэлефон: 76-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

©
Фармат А3.

Індэкс 63875
Агульны наклад 8000
Замова 50
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

